**Голас Радзімы**

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

**№ 28** (2222) 11 ліпеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.



**27 і 28 чэрвеня ў Мінску праходзіла Трэцяе па[...]джэнне Савета міністраў замежных спраў СССР і суверэнных рэспублік у сувязі з дзейнасцю ААН, накіраванай на аслабленне чарнобыльскай катастрофы.**

**НА ЗДЫМКУ: у час пасяджэння.**

**(Матэрыял аб сустрэчы міністраў чытайце на стар. 2).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

ТАМ ДОБРА, ДЗЕ НАС НЯМА

# ЗЫХОД,

## альбо ЧАЦВЁРТАЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ З БЕЛАРУСІ

Якой жа будзе гэтая хваля пакутлівага роздуму, трагедый, знойдзенага і страчанага? Што нясе яе паспешлівы адкат ад свяшчэннай для продкаў бацькоўскай прыстані пад імем Айчына тым, хто зыходзіць, і тым, хто застаецца і махае ўслед хусцінкай? Адзін з цяжкім сэрцам, другі з зайздрасцю, трэція з асуджэннем... Што, накрые яна з галавой наша і без таго амаль у апошняй стадыі асфіксіі грамадства ці, наадварот, "асвяжыць" новымі [...]асць нябачанымі сілам[...] [...]ратавальным духам свабоды перамяшчэння, зеленаватай манетай-валютай? І дадайце яшчэ сотню "што" і "як" — адказы ў вуснах нават найбольш кампетэнтнага сярод нас б[...]ь шматзначнымі... Надта[...]а зацягнуты, моцна пераплецены гэты вузел — нервовы клубок маральных, сацыяльна-палітычных, псіхалагічных, нацыянальных, рэлігійных і многіх іншых канчаткаў. Надта доўгі час на гэтую матэрыю, на сам тэрмін "эміграцыя" было накладзена табу аўтарытарнасці, абсалютызацыі грамадскага і прыніжэння асобаснага. Сёння сітуацыя, канешне, змянілася. Але што датычыць інфармацыі, дык тое нямногае (у першую чаргу ў прэсе), што ёсць, яснасці не прыбаўляе, а заблытаць — заблытвае. Найбольш жа дасведчаным на гэты момант з'яўляецца начальнік рэспубліканскай службы АВІР МУС БССР Сяргей СТЭСІК. Бо, як высветлілася з яго слоў, няма ў Беларусі іншай установы, якая б "разблытаала" гэты вузел-клубок, які, у маім разуменні, не набыў пакуль што цэласнасці. І распадаецца на фрагменты, каторымі я больш абазначаю накірункі для дыскусіі, чым нешта тлумачу.

**ФРАГМЕНТ І. ДЭ-ЮРЭ І ДЭ-ФАКТА**

Якой бы палярнасцю ні вызначаліся адносіны да эміграцыі

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

ПРАБЛЕМЫ АХОВЫ І РЭСТАЎРАЦЫІ ПОМНІКАЎ У РЭСПУБЛІЦЫ

# ШТО МЫ СТРАЦІЛІ І ШТО БУДЗЕМ АДРАДЖАЦЬ



Помнік архітэктуры XIX стагоддзя — Косаўскі палац, што ў Івацэвіцкім раёне.
Фота С. КРЫЦКАГА.

**Дзмітрый БУБНОЎСКІ па спецыяльнасці архітэктар. Некаторы час працаваў у рэстаўрацыйных майстэрнях. Дзесяты год займаецца пытаннямі аховы помнікаў гісторыі і культуры ў апараце Міністэрства культуры БССР, трэці год узначальвае вядучы аддзел аховы помнікаў гісторыі і культуры Міністэрства культуры БССР. З'яўляецца аўтарам праекта рэстаўрацыі Мірскага замка. З ім гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Нядаўна прайшоў чарговы з'езд таварыства аховы помнікаў. Я б хацела, каб вы коратка пракаменціравалі яго вынікі.*

— Я лічу, што на гэтым з'ездзе нічога істотнага адбыцца не магло. Таму што сама гэта грамадская арганізацыя ў многім ужо нежыццяздольная, страціла ў значнай ступені сэнс свайго існавання. У свой час таварыства было адной з асноўных крыніц забеспячэння помнікаў фінансамі. Зараз тыя сродкі, якія яны яшчэ могуць сабраць, улічваючы, што ім усё менш плацяць, ні ў якое параўнанне не ідуць з тымі сродкамі, што пачалі ўжо выдзяляцца дзяржавай на рэстаўрацыйныя работы. Большасць кіруючых пасад у таварыстве, асабліва на месцах, займаюць людзі, якія пад помнікамі гісторыі і культуры разумеюць у лепшым выпадку, а ў горшым — асноўным пахаванні — гэта ў сімвалы ў гонар землякоў, бюсты і г. д., якія па сутнасці і па Закону такімі з'яўляцца не павінны. Таму, я так мяркую, гэту арганізацыю альбо трэба кардынальна мяняць, альбо яе месца ў жыцці грамадства будзе непазбежна занята іншымі жыццяздольнымі добраахвотнымі фарміраваннямі.

*— Суровы прысуд, хаця, у прынцыпе, відаць, справядлівы. Але ж і Міністэрства культуры разам з таварыствам аховы помнікаў яшчэ зусім нядаўна хадзіла з працягнутай рукой...*

— Культура ў нашым грамадстве была і, на жаль, застаецца жабрачкай. Мы ездзілі на месцы, упрошвалі прадпрыемствы, калгасы, установы, каб яны амаль на

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

СВЕДЧЫЦЬ СТАТЫСТЫКА

## ПЛАЦІМ БОЛЬШ, КУПЛЯЕМ МЕНШ

Сумныя прадказанні накот далейшага развіцця эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, відаць, збываюцца. Калі крыху раней мы сутыкнуліся з падзеннем выпуску прадукцыі прамысловасці, то ў студзені — маі Дзяржкамстат БССР упершыню зафіксаваў падзенне выпуску тавараў народнага спажывання. Канкрэтна: у адносінах да студзеня — мая мінулага года мы маем 99,7 працэнта. Выпуск харчовых тавараў (без алкагольных напіткаў) склаў 93,8 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года. Па нехарчовых — прырост, але ён такі нязначны (102,3 працэнта) і так старанна абмінае многія пазіцыі, што пра яго не варта і гаварыць.

Спад вытворчасці — па ўсіх асноўных прадуктах харчавання, акрамя хлеба і хлебабулачных вырабаў, мукі і круп, а таксама алкагольных напіткаў (у апошнім выпадку — устойлівае ўзыходжанне: 115,5 працэнта). Вядома, калі вытворчасць не радуе, то і пастаўкі прадуктаў у гандаль таксама не на лепшым узроўні. Асабліва адчувальна знізіліся пастаўкі прадукцыі ў гандаль у красавіку — маі. У прыватнасці, мяса і мясапрадуктаў мы атрымалі менш, чым летась, на 19 працэнтаў.

Відаць, і надалей збіраецца трымаць нас на паўгалодным картачным пайку лёгкая прамысловасць, у якой аб'ёмы таксама знізіліся.

Мы сталі менш ездзіць. У прыватнасці, у маі пасажырскія перавозкі аўтобусамі знізіліся на 10 працэнтаў, самалётамі — на 8,5, паяздамі — на 16.

Дарэчы, на што яшчэ не прыходзіцца скардзіцца, што, мауляў, няма росту, — дык гэта на правапарушэнні: 17 працэнтаў прыбаўкі зноў ёсць. Такім чынам, якасць нашага жыцця няўхільна падае.

ПРАФЕСАР ПЯРЭЧЫЦЬ МАГАТЭ



Сваю нязгоду з вывадамі камісіі МАГАТЭ, што прыніжаюць уплыў чарнобыльскай катастрофы на здароўе людзей, выказаў прафесар Хірасімскага навукова-даследчага інстытута радыялагічнай медыцыны Юкіа Сата. Да такога вываду вядомы японскі паталагаанатам і яго калегі прафесары медыцыны тэрапеўт Кіра Кімура і гематолаг Нобуа Агума прыйшлі пасля ўласных даследаванняў, праведзеных сумесна з савецкімі медыкамі на Гомельшчыне.

НА ЗДЫМКУ: прафесар Хірасімскага НДІ радыялагічнай медыцыны Юкіа САТА.

ПАГРОЗА БЕСПРАЦОЎЯ

## БЕЛАРУСЬ: САЎМІН У ЦЭЙТНОЦЕ

Сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла ў другім чытанні Закон "Аб занятасці насельніцтва ў Беларускай ССР". Але абнародаваны ён быў толькі праз два тыдні. Спецыялісты канстатуюць: закон прыняты са спазненнем, час на падрыхтоўку адпаведных структур, закліканых працаўладкаваць насельніцтва, страчаны. Саўмін рэспублікі ў цэйтноце.

Наколькі рэальная пагроза беспрацоўя ў Беларусі? Па прагнозах, у гэтым годзе і першай палове будучага ў спісах незанятых людзей могуць аказацца 1 мільён 170 тысяч чалавек. Тры з чатырох без цяжкасцей знойдуць сабе справу, але каля 300 тысяч запатрабуюць сацыяльнай абароны, з іх 60 тысяч будуць атрымліваць дапамогу. Галоўны рычаг процідзеяння беспрацоўю — стварэнне дадатковых рабочых месцаў, пра што гаворыць сусветны вопыт. Аднак працэс гэты разгортваецца ў рэспубліцы крайне марудна.

ПАСЛЯ КАТАСТРОФЫ

## ПАД НАГЛЯДАМ МЕДЫКАЎ

У ходзе ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на вострую прамянёвую хваробу захварэлі 145 чалавек, 30 з іх ужо памерлі.

На канец мінулага года пад наглядам медыцынскіх устаноў сістэмы Міністэрства аховы здароўя СССР знаходзіліся 276 тысяч "ліквідатараў". У 1990 годзе больш за тысячу з іх памерлі ад розных прычын (няшчасныя выпадкі, атручванні, цяжкія траўмы, захворванні агульнага характару).

АВАЛОДАЦЬ РОДНАЙ МОВАЙ

## З ПЯЛЁНАК

Трыццаці сямі выхавальнікам дзіцячых садоў Светлагорска ўручаны пасведчанні Гомельскага інстытута ўдасканальвання настаўнікаў аб тым, што яны закончылі спецыяльныя курсы і цяпер маюць права весці ўвесь выхаваўчы працэс на беларускай мове. Гэтыя першыя выпускнікі беларускамоўных курсаў дапамогуць выхаванцам горада і раёна літаральна з дзіцячых садоў авалодваць роднай мовай.

РЫХТУЕЦЦА ДА ДРУКУ

## ПРА "ВОРАГАЎ НАРОДА"

У выдавецтве "Навука і тэхніка" рыхтуецца да выпуску серыя нарысаў аб рэпрэсіраваных вучоных, дзеячах культуры, кіраўніках народнай гаспадаркі Беларусі. Доўгі час яны насілі кляймо "вораг народа". Іх імёны сталінскі генацыд спрабаваў сцерці ў памяці народнай.

Аднавіць праўду аб тых, хто верыў у адраджэнне беларускай зямлі і прыкладаў для гэтага сілы, вырашылі супрацоўнікі групы "Сталінскія рэпрэсіі ў Беларусі 1920—1950-х гадоў", створанай у Інстытуце гісторыі АН БССР.

Першай такой спробай стала работа А. Урублеўскага і П. Працько "З гісторыі рэпрэсій супраць беларускага сялянства ў 1929—1934 гадах". Наступныя выданні раскажуць аб насці іншых рэпрэсіраваных.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ПАПРАЎЛЯЙСЯ, НАТАША!

У № 24 "Голасу Радзімы" было змешчана пісьмо настаўніцы Г. Горбач "Выратуйце маю дачушку!", у якім яна прасіла аказаць дапамогу сваёй дачцэ, хваробу якой спецыялісты звязваюць з чарнобыльскай катастрофай.

І вось — абнадзейваючая вестка: 29 чэрвеня Наташа Горбач з маці выехала ў Германію па запрашэнню Медыцынскай урачэбнай палаты. Курс лячэння працягнецца 56 дзён і пройдзе ў адной з клінік Гамбурга. Паездку і лячэнне арганізавалі беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" пры непасрэднай падтрымцы яго прадстаўнікоў у Германіі і доктар Ульрых Хардэр, які шэфствуе і над Чэрыкаўскай раённай бальніцай.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## АБАКРАЛА ДЗЯЦЕЙ

Кладаўшчыца школы-інтэрната № 4 у Мінску была затрымана з выкрадзенымі з інтэрната прадуктамі харчавання, што паступілі ў якасці гуманітарнай дапамогі абяздоленым і пазбаўленым нармальнага дзяцінства хлопчыкам і дзяўчынкам. Пры вобыску ў яе кватэры было знойдзена і канфіскавана каля 100 назваў украдзеных прадуктаў.

Уражвае цынізм гэтай 40-гадовай жанчыны, якая не пасаромелася залезці ў кішэню пакрыўджаных лёсам дзяцей.

ВЫПАДКІ

## НЕ ВЫТРЫМАЛА СЭРЦА

Трагічны выпадак адбыўся ў Смалявічах на вечары "Так пачыналася вайна". У час свайго выступлення на трыбуне ад разрыву сэрца памёр інвалід Вялікай Айчыннай вайны Дзмітрый Фаміч Пінчанка.

Пачаў ветэран сваё выступленне, як звычайна. Але, калі дайшоў да ўспамінаў аб ленінградскай блакадзе, захваляваўся, схапіўся за грудзі і асунуўся на рукі таварышаў. Так роўна праз 50 гадоў пасля свайго пачатку вайна скасіла яшчэ аднаго чалавека.

ДЫПЛАМАТЫЯ — НА ДАПАМОГУ

АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

## УДЗЕСЯЦЯРЫЦЬ НАМАГАННІ

Больш пяці гадоў мінула з таго суднага для беларускага народа чарнобыльскага дня. (За якія грахі? Хіба што за бязгрэшнасць...). І з кожным вымераным крокам часу ўсё больш і больш няўхільна звужаецца кальцо радыяцыйнай блакады. Разуменне фатальнасці далейшага прамаруджвання ў прыняцці радыкальных і супольных захадаў, здаецца, прыходзіць і да міжнароднай грамадскасці. Менавіта ў гэтым рэчышчы і разглядалася чарнобыльская праблематыка на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў СССР і саюзных рэспублік, якое адбылося ў сталіцы Беларусі. На ім прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх рэспублік за выключэннем Грузіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі (дзве апошнія дэлегавалі сваіх назіральнікаў). "Мы абмяркоўвалі не палітычную, а маральную праблему, і мне здавалася, што ў гэтай сітуацыі нам нікому дзяліцца не трэба", — адзначыць на гэты конт міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка на прэс-канферэнцыі з нагоды правядзення пасяджэння.

Асноўным пытаннем у парадку дня была каардынацыя высілкаў, узгодненасці саюзнага МЗС і рэспубліканскіх дыпламатычных службаў у тым, каб, як адзначыў Старшыня Савета міністраў замежных спраў СССР А. Бяссмертных, "падвоіць, патроіць, удзесяцярыць намаганні па аказанню міжнароднай дапамогі ахвярам і рэгіёнам, пацярпеўшым ад катастрофы на ЧАЭС". Гэтае бедства, на думку прамоўцы, турбуе і ўвесь свет. Ад таго, як мы здольны арганізаваць дапамогу нашай краіне, правяраецца здольнасць чалавецтва, сучаснай цывілізацыі рэагаваць на падобныя бедствы. Размова паміж міністрамі была інтэнсіўнай, канкрэтнай, прадметнай. Абмяркоўваліся розныя формы ўзаемадзеяння, захады, якія можа прымаць міжнародная грамадскасць, шляхі ажыццяўлення шматлікіх праграм. У гэтым плане Трэцяе пасяджэнне можна разглядаць як падрыхтоўчы этап нашай дыпламатыі да вельмі важнай падзеі. На гэтым засяродзіў увагу прысутных на прэс-канферэнцыі П. Краўчанка: "Асаблівасць экстраардынарнай сітуацыі ў тым, — сказаў ён, — што мы выйшлі на фінішную прамую адносна канферэнцыі дзяржаў-донараў, якая, верагодна, адбудзецца ў сярэдзіне сёлетняга верасня ў Жэневе, дзе будуць вырашацца фінансавыя аспекты міжнароднай дапамогі Беларусі, Украіне, Расіі".

Безумоўна, вынікі Чарнобыля не могуць не турбаваць краіны і народы свету. Аднак замежныя суайчыннікі, заходзячы ў рэдакцыю, усё часцей і часцей гавораць аб тым, што грамадскай думцы ў краінах іхняга пражывання паціху падаецца ідэя аб якімсьці перабольшванні пацярпеўшымі рэспублікамі памераў уздзеяння радыенуклідаў на чалавека і акаляючае асяроддзе. Відаць, не апошняе месца тут займае палітыка МАГАТЭ, у прыватнасці, апошнія вывады, зробленыя ў час кароткатэрміновага знаходжання яе экспертаў на тэрыторыі Беларусі. Старшыня Савета міністраў замежных спраў А. Бяссмертных, адказваючы на пытанне журналістаў, аналізуе гэты факт такім чынам:

— Рашэнні і вывады, зробленыя МАГАТЭ, не з'яўляюцца здавальняючымі. Яны закранулі толькі частку праблемы, заснаванай на выкарыстанні часткі даных, таму і ў прасторавым, і ў часавым плане не вывучылі ўсіх аспектаў, якія неабходны для таго, каб зрабіць універсальныя высновы. Пагэтаму мы лічым, што работа павінна працягвацца, экспертыза — быць больш паглыбленай аб'ектыўнымі дадатковымі даследаваннямі. У выніку мы атрымаем тую сапраўдную карціну, якую чакае свет і якую, на жаль, ён яшчэ пакуль што не атрымаў. Пагэтаму на Савеце мы дамовіліся, што спатрэбяцца новыя намаганні з боку ўсіх нас, каб забяспечыць правядзенне дадатковай глыбіннай экспертызы вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Я думаю, што гэта будзе зроблена

...Абмяркоўвалі міністры і другую тэму, звязаную з удасканаленнем, узаемадзеяннем і супрацоўніцтвам у наладжванні консульскай работы ў саюзным і рэспубліканскіх міністэрствах замежных спраў. Гэтыя пытанні ўсё больш і больш перадаюцца ў распараджэнне рэспублік, што абяцае і магчымасць ажыццяўлення больш плённых і дзейсных сувязей з землякамі замежжа.

Удзельнікі Трэцяга пасяджэння прынялі Заяву, дзе, сярод іншага, гаворыцца аб тым, што пад эгідай ААН ідзе да завяршэння распрацоўка Генеральнага плана яе дзейнасці на чарнобыльскім напрамку. Гэта першыя крокі. Важна неадкладна перавесці планы на мову канкрэтных дзеянняў, у кантэксце будучай канферэнцыі ААН па аб'яўленню добраахвотных узносаў, што будзе садзейнічаць стварэнню матэрыяльнай, фінансавай і інтэлектуальнай асновы для ажыццяўлення чарнобыльскай праграмы міжнароднага супрацоўніцтва.

Удзельнікі Трэцяга пасяджэння Савета міністраў замежных спраў СССР і саюзных рэспублік звяртаюцца да сусветнай грамадскасці з заклікам адгукнуцца на зварот Генеральнага сакратара ААН у сувязі з пятай гадавінай аварыі на ЧАЭС аб аказанні шчодрай і доўгатэрміновай дапамогі ахвярам катастрофы.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

**НА КІМ НАШ СВЕТ ТРЫМАЕЦЦА**

# СВЯТАЯ ПРАСТАТА

Уявім сабе: кантакт з пазаземной цывілізацыяй, нарэшце, ажыццявіўся і на адну з гарадскіх плошчаў апусцілася гэткае мігаючае агеньчыкамі дзіва з космасу. Прышэльцы самага невераготнага абліччa пытаюцца ў прысутных: "Ну, як справы, зямляне?" — "Жывём", — адказалі б мы сціпла. "А чаму без нотак гордасці?" Перашкаджаюць занепакоенасць, разгубленасць нашага грамадства, абцяжаранага эканамічнымі і іншымі непарадкамі. І як з імі справіцца, хто яго ведае? А можа, іншапланецяне ведаюць? І мы ўжо гатовы біць чалом далёкім братам па розуму, маўляў: "Дапамажыце!"

Хаця цяжкасці адносныя, таму што ўсе ж сытыя, абутыя, апранутыя. Мне ўспамінаецца выпадак са студэнцкага жыцця. Было гэта ў пачатку 70-х гадоў. Прывезлі нас на ўборку бульбы ў калгас. Пасялілі ў адной бабулі. Хата зусім бедная, голыя сцены. Мужа няма, сын-п'яніца прыязджае па суботах і забірае ў маці ўсе грошы. За цяжкую працу ў калгасе зарабіла мізэрную пенсію. Вось ужо ў каго, здавалася б, святое права скардзіцца. А яна нам гаварыла: добра цяпер жыць, хлеб ёсць, а ў вайну мы лебяду варылі.

Не падумайце, што я заклікаю маіх суграмадзян да скарачэння іх патрэб да мінімуму, сёння такія лозунгі ў нас не пройдуць. Хачу звярнуць увагу на іншае: бабуля засталася, нягледзячы ні на што, аптымісткай, жыццялюбам у адрозненне ад сучасных значна больш забяспечаных гараджан.

Так, часы змяніліся. Раней у галовах была хаця б яснасць, магчыма, як сцвярджаюць некаторыя, і ўяўная, сёння — смута, прычым абсалютная. Надышло чарговае "разбурэнне дашчэнту". А што затым?

Нехта кліча да перамогі капіталізму, нехта заміlаваны райскімі шатамі самадзяржаўя, іншым мілыя застойныя парадкі. І ўсё атрымліваецца па прымаўцы — "там добра, дзе нас няма". На што ж абаперціся, дзе і ў чым чэрпаць надзею?

Хочацца расказаць аб адной сустрэчы. Не збіраюся нікога павучаць, даваць парады. Падзялюся толькі сваімі ўражаннямі.

Леаніда Вечар жыве ў гарадскім пасёлку Чырвоная Слабада Салігорскага раёна. Раніцай яна сядае на веласіпед (нават зімой, калі не вельмі слізка) і знаёмым маршрутам коціць у "Сельгастэхніку", дзе яна — ветэран, бо пачынала яшчэ з будаўніцтва майстэрань і асвоіла тут усе работы: біла праклaдкі для матораў, шыла чахлы, уцяпляльнікі для машын. А выйшаўшы на пенсію, не мяняе звыклага ўкладу. За чатырнаццаць кіламетраў ад пасёлка знаходзіцца яе родная вёска Пружанка, у якой ад бацькоў Леанідзе Баніфацьеўне засталіся ў спадчыну дом і сядзіба — сорак пяць сотак. І вось жанчына працягвае спраўляцца на двух франтах — за станком і на зямлі. Скажаце, на такое жанчына асуджана толькі ва ўмовах савецкага сацыялізму. Магчыма, але цікава ўсё-такі, чаму чалавек робіць так, а не інакш.

Але навошта пенсіянерцы фактычна ў адзіночку так старацца, каб здаць у мінулым годзе дзяржаве 18 тон буракоў і чатыры бульбы? Няўжо дзеля грошай? Але іншыя маюць невымерна больш лёгкія і значныя даходы на спекуляцыі, што не патрабуе, як вядома, мускульных затрат, а тут — самая цяжкая, знясільваючая праца. Ці не лепш было, забяспечыўшы асабіста сябе той жа бульбай, паберагчы сілы?

Леаніда Баніфацьеўна так не лічыць і працуе на зямлі, таму што не выносіць яе запусцення. І здае гэтыя цяжкія, палітыя потам тоны, якія ў выніку аказваюцца на стале гараджан. Прынцып просты: калі не яна, тады хто? Вось яе жыццёвая філасофія без усякай хітрасці.

Думаю, што не пакрыўджу Леаніду Баніфацьеўну, калі скажу і ёй выдатна вядомае. На жаль, вельмі многія, даведаўшыся пра тое, як яна выкладваецца, выразна пакруцілі б пальцам ля скроні. Маўляў, чалавек не разумее, што не ў зямлю рогам упірацца трэба, а разумненька грошы рабіць — рублі, а яшчэ лепш — валюту. Але ці не занадта многа ў нас сёння падобных хітруноў? І ці не таму мізэрны асартымент тавараў на гандлёвых прылаўках? Золата не з'ясі, доларам не абуешся. Мы неяк забываем, што грошы — усяго толькі сімвал. Дзяржава багатая не імі, а тым, што яны абазначаюць — чалавечай працай. Леаніда Баніфацьеўна нагадала нам аб гэтай простай ісціне. Адкуль у звычайнай жанчыны зайздросная стойкасць да жыццёвых пераплётаў? Хто навучыў? Якія-такія універсітэты? А вось паслухайце...

Адразу пасля вайны ў 14 гадоў засвоіла першы ўрок. На працадні апрацоўвала 33 соткі тытуню з вясны да восені, калі яго сушылі і везлі здаваць у Чырвоную Слабаду, дзе кладаўшчык патрабаваў хабар, а інакш ураджай ішоў ніжэйшым сортам зусім танна. Гэтак жа працавала на льне, бураках. А яшчэ начамі дапамагала на зернетоку. Паспела таму скончыць толькі восем класаў.

Сям'я павінна была здаць у год 75 дзесяткаў яек, 400 літраў малака, 40 кілаграмаў мяса і 1 500 рублёў падатку. Авечак трымалі толькі для дзяржавы. Жылі галаднавата, хаця працавалі ад цямна да цямна. За такія старанні бацька ў выніку атрымліваў 12 рублёў пенсіі.

Слухаючы Леаніду Баніфацьеўну, я ўспомніла адно назіранне Мікалая Фёдарава, рускага філасофа мінулага стагоддзя. Ён пісаў: "Горад адносіцца да вёскі, як драпежнік да траваеднага". І за сто гадоў адносіны гэтыя, як відаць, мала змяніліся. Па-мойму, задача нашай перабудовы простая — даць магчымасць плённа рэалізаваць сябе таму, хто хоча і можа. Калі працаўнік не будзе на грамадства і дзяржаву крыўдаваць, значыць, запануюць парадак і дабрабыт. На жаль, пакуль хваліцца няма чым. Абсурд працягваецца. Прапаноўваюць людзям гаспадарыць на зямлі, а неабходнай т[illegible]і няма, кармоў для жывёлы такса[illegible] Што гаварыць, калі нават хлеб у Чырвонай Слабадзе ў дэфіцыце і дрэннай якасці. Леаніда Баніфацьеўна жыве ў доме з ваннай і туалетам, але без водаправода. За "нітку" з кранам, за ўл[illegible]ныя грошы праведзеную ў яе кват[illegible]д суседняй сталовай, давялося зма[illegible]цца з сельсаветам два гады, таму што "не прынята"... Зрэшты, Леаніда Баніфацьеўна не скардзіцца. Ва ўсім прывыкла спадзявацца на сябе. У сям'і ўмелі рабіць любую работу. Бацька будаваў дамы, маці ў вольны час — начамі — шыла. Дачка гэта пераняла ў поўнай меры і сына навучыла, унучка расце працавітай.

Цяпер Леанідзе Баніфацьеўне сорамна чытаць у газетах, што замежжа шле нам прадуктовую дапамогу, таму што беларусы заўсёды кармілі сябе самі, а тут — працаваць развучыліся ці што? "Людзі сталі спажыўцамі, таму і няма нічога", — лічыць яна. Калі памёр бацька, вырашыла дом у вёсцы не прадаваць, самой участак апрацоўваць — "зямля дае і спачын, і сілы". І ўвогуле, без справы заставацца не можа. Памайстэрску вяжа, шые, выпякае розныя кандытарскія цуды, кансервуе. Вось і парася завяла...

Чую цэлы хор цынічна-скептычных галасоў: "Ад працы коні дохнуць! Прастата..."

Святая прастата. Спакон веку на такіх, як Леаніда Баніфацьеўна, свет трымаецца, і калі ён яшчэ стаіць, значыць, на наша шчасце, працаўнікі не перавяліся. У іх свая асаблівая сістэма. Яна — карнявая. У невядомасці, не на вачах сустракаюцца карані з глебай, але толькі калі яны ёсць і дзейнічаюць, жыве і зелянее крона дрэва, кожны асобны лісток. Галінкі могуць дазволіць сабе гуляць з ветрам, слухаць, забыўшы пра ўсё, птушак — а карані ў гэты час робяць сваю непрыкметную працу — кормяць, сілкуюць усё дрэва. І, занятыя сваім, не чакаюць пахвалы.

Хочацца закончыць гэтыя заметкі ў мажорнай танальнасці. У адной англійскай п'есе, прысвечанай перабудове, такі фінал. М. Гарбачоў абмяркоўвае пытанне аб савецкай дапамозе збожжам Амерыцы. Значыць, яны там, за мяжой, верацб у нас.

Пасля сустрэчы з Леанідай Баніфацьеўнай Вечар я таксама — веру.

**Ніна ЗЛАТКОЎСКАЯ.**

МІНСКАЯ БІРЖА



# ЗАКЛЮЧАНЫ ПЕРШЫЯ ЗДЗЕЛКІ



**Мы ўжо паведамлялі, што [illegible]ета 14 мая ў сталіцы Беларус[illegible]ыло зарэгістравана акцыянернае таварыства "Мінская біржа", у якое ўвайшлі 107 фундатараў, прадпрыемстваў, арганізацый, а таксама прыватных асоб [illegible]ось на днях на біржы ад[illegible]ўся першы торг. У ім пажадалі ўдзельнічаць прадстаўнікі 164 брокерскіх кантор, 40 разавых наведвальнікаў. Было прадстаўлена на продаж тавараў на суму каля сарака мільёнаў рублёў. Прычым, тавараў у шырокім асартыменце. Назавём толькі некалькі найменняў: мармуровыя пліты, паркет з чырвонага дрэва, чарапіца і штакетнік, перасоўны склад цэменту і многае іншае. Аб'ектам заключэння першай здзелкі стаў лінолеум польскай вытворчасці. Пасля даволі хутка знайшліся пакупнікі на будаўнічы лес, аргонічнае шкло, поліэтылен у рулонах... Усяго заключана здзелак на суму адзін мільён 300 тысяч рублёў.**

**Гэта толькі пачатак работы біржы. Справа для яе арганізатараў і ўдзельнікаў новая. Ці не таму былі і накладкі. Скажам, канфлікт узнік вакол будаўнічага лесу. Удзельнікі здзелкі ўжо падняліся на подыум, каб падпісаць неабходныя паперы, як па гэтаму тавару раптам аднавіліся... таргі. Што, вядома, выклікала незадавальненне брокераў, якія сталі высвятляць адносіны паміж сабой, а таксама паміж сабой і вядучым таргоў. На шчасце, такіх канфліктаў было мала. І таму застаецца павіншаваць акцыянернае таварыства "Мінская біржа" з нядрэнным пачаткам. Таргі на біржы запланавана праводзіць адзін раз на тыдзень.**

**НА ЗДЫМКАХ: першыя таргі таварыства "Мінская біржа".**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**






**41**

Грошы сталі нявартымі паперкамі. Загорскі пацяшаўся... Ужо аднаго гэтага было досыць, каб Тугоўскі з трывогай сачыў за падзеямі...

І раптам сталася: нечакана, здаўшы некалькі бронецягнікоў, пакінуўшы трупы на вуліцах, бальшавікі пакінулі Харкаў... Усё жыхарства вітала першыя казачыя часці, увайшоўшыя ў места, багатыя людзі выносілі дзесьці схаваныя булкі, пячэнне, віно. Усе сьмяяліся, віталі адзін аднаго з збаўленьнем.

І ва ўсіх цэрквах званілі ўва ўсе званы. У саборы адпраўляўся ўдзячны малебен за збаўленьне ад Анціхрыста. Урна ламалася на дровы, магілы зроўніваліся з зямлёй і забруковываліся каменем. Па самай галоўнай Нікалаеўскай вуліцы хадзілі грамадой паны ў цыліндрах, дамы прыгожа, пабальнаму адзетыя. У ваднэй кучцы Тугоўскі заўважыў Загорскую, ішоўшую пад ручку з афіцэрам. Яна часам рукой паказвала на якога-небудзь бедна апранутага чалавека: "Камуніст!" — і афіцэр зараз арыштовываў яго на вуліцы.

Тугоўскі пасьпяшыў схавацца. Хто ведае, што яшчэ можа быць?.. Досыць якой-небудзь даме наўмысьля паказаць на яго пальцам, каб яго забралі і павялі. А там спрабуй тады апраўдацца! І ў сэрцы Тугоўскага рабілася горка. Вось якая псыхалёгія ў гэтых людзей, якія называюць сябе інтэлігэнтамі. Вось яны, прыгожыя дамы! Яшчэ на іх вачох валяліся прыкрытыя рагожай, акрываўленыя трупы матросаў і жаўнераў, а яны хацелі новых ахвяр, новай крыві. Па вуліцах гналі на расстрэл кучкі людзей (хто ведае — вінаватых ці не), нёслых галаву за ідэю ці можа быць проста за якую-небудзь помсту якога-небудзь абазлыўшагася абывацеля. Іх вялі сьветлым, радасным,

**42**

сонечным днём, калі ўсё казала аб жыцьці, калі ў мястовых садах гуляла разубраная таўпа і чырыкалі вясёла птушкі, вялі на круты бераг... і там кулямётам касілі, як жывёлу.

— Распніце іх! — крычаў абывацель і радасна благаслаўляў булку белага хлеба.

У Загорскага радасьці не было канца. Ён хадзіў качаць гэнэрала Май-Маеўскага і Куцёпава, ён запісаўся санітарам у асобны студэнцкі батальён і прымушаў гэта самае зрабіць Тугоўскага.

— Мне няма часу. Я хачу вучыцца, — адказываў Тугоўскі. Гімназіі і рэальная школа якраз адчынілі сваю дзеяльнасьць, хоць вучняў у іх было вельмі мала. Усё вярталася па-старому, разам з старым правапісам і буквай "ять".

Што было рабіць? Трэба было жыць... Трэба было прытарнавацца да новых абставін! І Тугоўскі, згубіўшы веру ў чалавека, з сумам у грудзёх пачаў жыць, пачаў вучыцца. Ён быў ужо ў апошняй клясе рэальнай школы, і яму заставалася толькі некалькі месяцаў да яе сканчэньня. Вучыцелі ўжо абяцалі старынныя атэстаты з царскім арлом. Як раптам... Дзянікіна пагналі з-пад самага Арла.

Не пасьпелі нават апамятацца, як фронт апынуўся пад Харкавам і гэнэрал Куцёпаў абвесьціў мабілізацыю ў першую чаргу вучняў апошніх кляс гімназіі і рэальнай школы.

Загорскі паступіў дабравольцам на бронецягнік. Тугоўскі разам з некалькімі жыдкамі-вучнямі рашыў дэзертыраваць.

...І ён спомніў цяпер у альтане, колькі ён перажыў за гэты час, спомніў, як ён дрыжэў ад кожнага скрыпу варотаў, спомніў, як дзянікінцы разьбівалі магазыны і вінныя крамы, успомніў, як за дэзертырства павесілі аднаго юнака на вуліч-

**43**

ным ліхтару. З таго часу ён больш нічога ня ведаў аб Загорскім. Ён думаў, што яго ўжо не было ў жывых, як не засталося нікога з тых, з якімі ён вучыўся. І раптам яны спаткаліся ў Празе, на беларускім грунце. Як дзіўна! Тугоўскі ламаў сабе галаву над пытаньнем: як магло стацца, каб дзянікінец і патрыцый мог папасьць у беларускі рух. Зразумела, Загорскі быў ужо ня той: рэвалюцыйная бура зламала яго панскую гордасьць і самазакаханне, але ўсё ж да чалавека з новай душой, беларуса, яшчэ было далёка. Прорва паміж імі ўсё-ткі заставалася вялікая. Яна ня стала меньшай, чым была ў той час, калі на твары Тугоўска загарэлася чырвоная пляма — "плябей".

Праўда, цяпер яна не была такой жахлівай, бо якраз душа Тугоўскага цярпела, яна пачынала перажываць мукі разачараваньня.

Рэвалюцыя ўвайшла ў свае берагі... Рэвалюцыя, як мора, ускалыхнуўшае ўсё, што было на дне, зноў апусьціла на дно тое, што там было. Хто бі нічым, той і застаўся нічым. І з сумам дума, Тугоўскі, як ён жыў пры бальшавіках, як кожны ранак ён нёс сваёй матцы бялізну ў чырвонаармейскую прачашную. З сумам думаў ён, як заходзіў у склеп, поўны духаты, смуроду й пару — цёмны й шумны, дзе ў куту выцягівала бялізну з машыны, надрываючы свае апошнія сілы, матка.

— Гэта ваш сын? — пыталі работніцы ў прачашнай...

— Каб я мела такога сына, — сказала маладая работніца, — я б у гэтай прачашнай не працавала...

— Што рабіць? — уздыхнула старуха Тугоўская, — я працую, каб ён меў бы магчымасьць вучыцца. Можа быць, выўчыўшыся, успом-

**44**

ніць сваю старую матку.

— А на каго ж ты яго вучыш? — цікавілася другая работніца, больш пажылая.

— На інжынера...

— Ну, цяпер усе вучацца на інжынера, — зазначала пажылая работніца. — А хто ж тады боты будзе шыць? Вучыла б ты лепш свайго сына на шаўца.

Тугоўская нічога не адказвала, ізноў бралася за бялізну.

Тугоўскі ня мог перанясьці гэтых размоў. Яны рэзалі яго жывога ножыкам па горлу і сэр[illegible] прымушалі ледзь не са сьлязамі на вачох хад[illegible] па ўстановах і прасіць сабе службы. Ніякай [illegible]жбы ён сабе ня мог знайсьці...

Ён ішоў з сумам па вуліцах, а ў гэты час міма яго пранасіліся аўтамабілі, у якіх сядзелі "спецы", адукаваныя людзі "добрых старых часоў". Хто чымсьці быў раней, той і зараз займаў доб[illegible] паложаньне. Не заставалася нічога ра[illegible] Тугоўскі паступіў у адчыніўшыйся бальшаві[illegible] Тэхнёлагічны інстытут, дзе выдавалі студэнтам пэнсіі і паёк. Кожны дзень ён атрымліваў фунт чорнага хлеба і ішоў у сталовую, дзе падавалася зупа, праскавараная бараннім лоем. За сталовай інстытуту пачынаўся белы прыгожы палац, у якім жыў камісар Украіны — Ракоўскі. Навакол яго размерана хадзілі часавыя. І ў гэты час, калі Тугоўскі выходзіў з сталовай, наеўшыся бараннай зупы, пад'язджаў на аўтамабілі камісар Ракоўскі з сваёй прыгожай жонкай, падаваў пропуск часавым і зьнікаў у палацы. Як патаўсьцеў ён за гэты час на вачох Тугоўскага! Прыехаў ён адкульсьці з Эўропы ў шыкарным аўтамабілі і ў бабровай шубе такім худзенькім інтэлігэнцікам! На пляцу, дзе

**45**

прыняў парад арміі, яго віталі шматлікія масы народу. Але ў бабровай шубе сярод убогіх хадзіць было нязручна. І Тугоўскі пабачыў, як ён зараз жа перапрануўся ў жаўнерскую гімнасьцёрку, нацягнуў боты і накінуў шынель. Аднак і жаўнерская вопратка не магла схаваць таго, што ён таўсьцеў, калі ўсе худзелі. Як было параўняць жыцьцё яго ўласнае і жыцьцё яго маткі з жыцьцём Ракоўскага! Як было перацярпець яму, "плябею", вітаўшаму рэвалюцыю, гэтыя кантрасты! Так, нічога няма новага пад сонцам. Усё старое, як сам сьвет. І ён спомніў дзесьці вычытаныя словы нейкага філёзофа: "Рабства на сьвеце не зьнікае. Мяняюцца толькі яго формы". Запраўды, ці не аднолькавае рабства, калі яго матка раней мыла бялізну пані Загорскай, а зараз мые бялізну чырвонаармейцаў... Зьмянілася толькі форма, нават стала горшай, але істота рабства, эканамічнага рабства — тая самая. Хто быў нічым, то і стаўся нічым.

Хутка ён ня вытрымаў жыцьця ў чырвоным Харкаве. Ён пачуў, што нешта цягне яго на Бацькаўшчыну, няхай у буржуазнае белае гаспадарства, але ўсё роўна. Ён чуў яшчэ востры пах вялікіх пакояў Загорскіх, ён бачыў перад сабой разубраныя тоўпы народу і прыгожых паненак, і брыдка яму стала ад гімнасьцёрак, памазаных ботаў, лаянак і семячак, налусканых на падлогу. Хай будзе на новай Бацькаўшчыне рабства... Не страшна. "Рабства на сьвеце не зьнікае. Мяняюцца толькі яго формы".

І ён паехаў на Бацькаўшчыну. Беларускі рух ужо пачынаў свой поступ. Ён падхапіў Тугоўскага, падняў яго на свае хвалі і кінуў у абоймы беларускае гімназіі[1]. Беларуская гімназія выбіла з яго мэлянхолію, натхнула жыцьцём і радасьцей. Ды-

**46**

рэктар гімназіі[2], вясёлы чалавек, з доўгай чорнай барадой і залатымі акулярамі на доўгім, досыць тоўстым носе больш падобны да грузіна, чым да беларуса, заўсёды казаў:

— Школа павінна даць сваім выхаванцам перш за ўсё веру, каб яны хадзілі сьмела з горда паднятай галавой.

І выпускаючы яго ў Прагу, ён цалаваў яго і казаў:

— Ну, вяртайцеся назад толькі прафэсарам. З вас будзе добры прафэсар.

А вось цяпер што сталася з ім? Ён ляжыць у зімнай альтане, восеньню, калі нават зьверы хаваюцца ў свае норы... Ён ляжыць пад коўдрай, калі ня можна высунуць рукі. Хутка напэўна выпадзе сьнег... Няўжо яму выпадзе доля спаць на сьнягу і можа быць на сьнягу замёрзнуць? Не... Ніколі! Зьвярыным гневам поўняюцца яго грудзі. Узяць бы нож і падобна "брацьцям-разбойнікам" ісьці па местах і вёсках...

Хто ён? Бадзяга з закончанай сярэдняй адукацыяй!.. Ён радзіўся пралетарыем, а стаў горш за пралетарыя. Хіба ён можа параўняць сябе з чэскім пралетарыем? У таго — чыстыя, прыгожыя пакоі, з добрай мэбельлю, за каберцамі, з белымі пышнымі пярынамі, красуючыміся на пасьцелі, з кветкамі на вокнах і птушкамі ў клетках. А ў яго...

У гэты час астральны чалавек скончыў сваю дэкламацыю. На хвіліну ў альтане стала ціха. Нарэшце Тугоўскі прамовіў:

— А вы ўсё ж такі добра дэклямуеце... Ведаеце,

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 27.**

**47**

як жывых пабачыў "брацьцяў-разбойнікаў". І пад уплывам вашай дэклямацыі ўспомніў усё сваё жыцьцё.

Астральны чалавек маўчаў.

— Я ўспомніў сваё жыцьцё, — прадаўжаў Тугоўскі., — і мне проста хочацца трапятаць і плакаць. Колькі памылак... Ах, колькі памылак... Якое няўдачнае жыцьцё, якое цёмнае жыцьцё на дне, дзе капошацца чэрві... Так, роджаныя поўзаць — лётаць ня могуць. Я радзіўся поўзаць... Я радзіўся пад праклятым Сатурнам.

— Сяньня ў нас важнае паседжаньне спірытычнага гуртка, — прамовіў астральны чалавек. — Пойдзем...

— Не... Сяньня я дрэнна сябе чую, — адмовіўся Тугоўскі.

Астральны чалавек замоўчыў і як мага хутчэй пачаў апранывацца. Праз хвіліну ён паляцеў у інстытут, пакінуўшы ў альтане аднаго Тугоўскага... Тугоўскі паляжаў крыху, але потым таксама ўскочыў, хутка апрануўся, накінуў на сябе коўдры і, дастаўшы аркуш паперы, пачаў пісаць. "Споведзь самагубцы. Кніга для ўсіх і ні для кога", — прыгожа вывеў ён на аблоэкцы. "Сяньня, калі прыгожы восеньскі дзень разьліе сваю чырвоную крою на захадзе і калі ён пачне сінець і калі наступе вечар, у лес да сосная прыйдзе чалавек, каб пагутарыць апошні раз. Ён скажа так: "Роўна 24 гады таму назад у маленькім месьце ў склепе, у сям'і работніка, радзіўся чалавек. Якой пароды быў гэты чалавек? Кажуць, чалавек родзіцца для шчасьця, як птушка для палёту. Але пароды птушак бываюць розныя, і палёты бываюць розныя. Адны роджаны для таго, каб стаць вераб'ямі, і як бы яны ні хацелі, — ім не падняцца вышэй страхі

**48**

маленькай хаты, не адляцець далей нейкага мейсца чалавечага жыльля. Другія жа родзяцца каршунамі, каб лятаць высока пад небам, каб у пэўны момант накінуцца на слабейшых і адняць ад іх жыцьцё і шчасьце. Людзі родзяцца і жывуць, як птушкі... Ніхто ня ведае, што вылупіцца з яйка, ніхто ня ведае, чым стане чалавек. Так птушка, у гняздзе якой пакладзена зязюленае яйка, ня ведае, што яна высядзе зязюлю; так ніхто ня ведае, што выйдзе з растучага чалавека: зязюля ці каршун. Але чалавек расьце. Ён чуе, што ў яго адрастаюць крыльлі. Ён бачыць, што пад небам лётаюць сакалы. І ў сэрцы яго кладзецца жаданьне: чаму я ня сакол, чаму я не магу лётаць над сьветам... Паляту... І ён ляціць. Ён прабуе зрабіць гэта раз... Не выходзе. Ён чуе, што яго крыльлі слабыя; ён прабуе падняцца другі, трэці, чацьвёрты, дзесяты раз — і ня можа. Тады ён бача, што крыльлі яго заслабыя. Ён пакідае сваё жаданьне. Ён пачынае задумвацца й знаходзе, што ён ужо зусім ня сакол, ён жа радзіўся вераб'ём... Так пазнаюцца законы жыцьця.

---

[1]Дзвінская беларуская дзяржаўная гімназія (1922 — 1932) прытуляла ў свой час Паўліну Мядзёлку, жонку Тамаша Грыба, Уладзіміра Пігулеўскага, Сяргея Сахарава... Тут выступалі Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі... Гімназія і Настаўніцкія курсы пры ёй далі шэраг беларускіх культурных дзеячаў у Латвіі, сярод якіх мастакі Пётра Мірановіч, Міхась Калінін, оперная спявачка Надзея Мікалаева-Комісар, паэт Пятро Сакол (Масальскі), Мікола Талерка, рэжысёр Язэп Камаржынскі і інш.

[2]В. Вальтар тым самым дае дасканалы партрэт першага дырэктара гімназіі гісторыка Яна Краскоўскага.

# ЗЫХОД,

## альбо ЧАЦВЁРТАЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ З БЕЛАРУСІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

цыйных працэсаў на ўсіх паверхах нашай грамадскай будовы, як бы натруджана ні ламаліся там стэрэатыпізаваныя схемы мінулага ці, з адваротнага боку, ні ляпіліся з пылу-жару супермадэрнавыя, пытанне заканадаўчым шляхам вырашана. Сёлета ў маі Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон аб уездзе-выездзе. Перабудова адрадзіла і гэты феномен нашага жыцця. Але яшчэ і да прыняцця Закона, у выніку лібералізацыі працэдуры ўезду-выезду і праз спехам прасечанае дэмакратызацыяй "акно ў Еўропу", мае супляменнікі рынуліся лавіць птушку шчасця ў райскіх, як ім уяўляецца, садах капіталістычнай мары.

У 1989 годзе з Беларусі на пастаяннае жыхарства за мяжу перабралася 2 282 чалавекі, у 1989—14 680, у 1990—34 094.

Яшчэ нядаўна мы з ім амаль што сябравалі... І адкуль ні вазьміся — візы, міжнародныя білеты, борзды ў помірг вока продаж хатняга майна, кніг. Вось ён ужо нешта ўсоўвае мне пад пахі бясплатна, наўмысна весела мурлыкаючы добра забыты матыў: "Не нужен нам берег турецкий, и Африка нам не нужна". А на вакзале, чамусьці адводзячы вочы ўбок, нібыта просячы прабачэння, пабаўляе: "Дзед, ты не хвалюйся, я табе падкіну лекаў, дзецям стронцый паганяць..." І знік.

У касах Аэрафлоту білеты на зарубежныя авіялініі забраніраваны на год наперад... Дзялкі бойка гандлююць замежнымі запрашэннямі, кааператывы — брашуркамі-інструкцыямі "на выезд"... На таможнях даўжэзныя чэргі: армада самаходаў "штурмуе" пагранічныя пераходы.

**С. СТЭСІК:** "Наша служба знаходзіцца ў становішчы, якое можна назваць крытычным. Колькасць заяў ад грамадзян, якія хочуць выехаць, не дазваляе ім ажыццявіць свае планы ў вызначаны тэрмін. Загружанасць апарату АВІР такая, што чарга на прыём дакументаў расцягваецца на многія месяцы".

Стыхія перасялення заваладала душамі і сэрцамі людзей, кідае іх ад эйфарыі за малым ледзь не да панікі.

Думаю, што не трэба перабольшваць, панікаваць. Вецер перамен збівае нас калі-нікалі з панталыку, раскручвае вакол сваёй восі...

Эміграцыя — з'ява аб'ектыўная і непазбежная. І такая ж старажытная, як сам род чалавечы, адлік дзён вядзе ад Адама і Евы. А з 1948 года, калі Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека зафіксавала права кожнага "пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну", іміграцыйныя патокі перасяленцаў свету робіцца ўсё гусцейшымі.

Па сведчанні часопіса "Тайм", у 1984 годзе колькасць пакінуўшых родныя ачагі складала 9,9 мільёна, у 1987—13,3, у 1988— 14,5. Найбольшы працэнт (1988 год) выпаў на Афганістан —41,1, Афрыку —28,4, Сярэдні Усход —22,1, азіяцкія краіны —6,1, лацінаамерыканскія і карыбскія басейна —1,9, Еўропу —0,4 працэнта.

Міжнародная супольнасць плённа працуе над цывілізаванымі правіламі і нормамі, якія б адладжвалі "кантакты" паміж людзьмі і выезд на пастаяннае жыхарства за мяжу. Хоць, вядома, многія краіны глядзяць на гэта дужа на свой капыл.

Савецкі Саюз таксама далучыўся і падпісаў цэлы шэраг пагадненняў, сярод якіх Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, прыняты ў 1966 годзе, дакументы Венскай нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (1989 год), Капенгагенскай канферэнцыі (1990 год) і г. д., што і паўплывала пазітыўна на прынятцце памянёнага закона.

Да таго ж рынак, наш маяк у густым тумане заняпаду, адной са сваіх мэт мае пераразмеркаванне працоўных рук, пераліў з краёў, дзе іх лішак, у рэгіёны, дзе бракуе.

Ды ці магчыма ўявіць сабе будаўніцтва прававой дзяржавы, агульнаеўрапейскага дому, уваходжанне ў адпаведныя інтэграцыйныя эканамічныя структуры, узаемаабмен тэхналагічнымі і тэхнічнымі дасягненнямі, духоўнымі каштоўнасцямі без свабоднага перамяшчэння людзей і адкрытых гуманітарных сувязей з замежжам?!

**ФРАГМЕНТ 2. ХІБА Ж НЯСУЦЬ АЙЧЫНУ НА ПАДЭШВАХ СВАІХ ЧАРАВІКАЎ?**

Чацвёртая хваля эміграцыі вызначаецца ў Беларусі дзвюма акалічнасцямі: накірункам узятага курсу і эміграцыйн[illegible] фактарамі, прычынамі.

З 25 479 разгледжаных у 1990 годзе заяў 25 326 прыходзіцца на капіталістычныя дзяржавы, былыя сацыялістычныя —153. З іх на Ізра[illegible] —24 648, ЗША —387, Кан[illegible] —113, Германію —62. На астатнія — адзінкі.

**С. СТЭСІК:** "Каля 80 працэнтаў былых грамадзян БССР накіроўваецца ў Ізраіль. Спачатку ад'езды насілі палітычны характар, калі разыгрывалася так званая выязная -невыязная карта, потым эканамічны і асабіста-сямейны".

Выезды па "ізраільскай" візе набылі рэгулярнасць, нацыянальную і канфесійную матывацыю яшчэ пры канцы 60-х і ажыццяўляліся згодна Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1967 года, што дзейнічаў па прынцыпу "вуліцы з аднабаковым рухам". Шанцаў на рэпатрыяцыю, на вяртанне назад, у гэтай катэгорыі эмігрантаў не існавала, хоць на практыцы выключэнні дапускаліся. З 1 ліпеня сёлетняга года асоба яўрэйскай нацыянальнасці, выязджаючы, можа атрымаць агульнаграмадзянскі замежны пашпарт СССР.

Дык якая ж дэтанацыйная сіла выштурхнула гэту эміграцыйную хвалю з людскога мора Бацькаўшчыны? "Якая, якая, вось такая... А то ж ты не бачыш, разумнік... Агляніся навокал, убачыш якая", — выгаворвала мне агрэсіўна настроеная жанчына, калі я, праводзячы ў Мінскім гарадскім АВІРы сваё журналісцкае міні-даследаванне, да таго ж з дыктафонам, торкнуўся ў насцярожаныя рады кандыдатаў у мае замежныя суайчыннікі. Аглядаюся штодзень: гаспадарчы хаос, павальныя дэфіцыты, росквіт злачыннасці і карупцыі, процьма іншых спадарожнікаў пераходнага да рыначнай эканомікі перыяду, пякучых да болю, адчаю, страты адчування рэальнага, азлаблення падштурхоўваюць людзей да рашэння эміграваць. Што гаварыць, здаровай эканоміцы не пагражае ніякі масавы выезд, а ў хворай ён — вястун нядобрай гадзіны. Так здаралася неадночы ў гісторыі беларускага народа.

Аднак не адзін раз мае больш спакойныя і памяркоўныя рэспандэнты завяршалі сваю матывацыю тым, што прыгаворвалі ўздыхаючы: "Але ж усё можна было б перажыць, каб не Чарнобыль". Гэта і ёсць дэтанацыя, самая страшная і разбуральная — ядзерная. Экалагічная.

У 1989 і 1990 гадах эмігравала адпаведна: З Мінска 6 026 і 10 242 чалавекі, з Гомельскай вобласці 4 347 і 12 287, Магілёўскай —2 615 і 5 759, Брэсцкай —1 105 і 960, Віцебскай —248 і 3 087, Гродзенскай —114 і 493.

"Хіба Айчыну нясуць на падэшвах сваіх чаравікаў?" — адказаў Дантон на парады сяброў уцякаць з Францыі, каб пазбегнуць пакарання. А калі б ён ведаў, што той пыл і дым Айчыны набрыньваюць радыяцыяй? Калі б са страхам заглядаў у вочы дзіцяці, усё аздараўленне якога ў сталіцы рэспублікі заключалася ў бясплатным атрыманні на каляндарны год бутэлечкі вітамінаў, а часта купляць на рынку сякую-такую кіслую садовую ягаду не ўсім па кішэні?

А каб тыя чаравікі, з тым жа пылам, з той жа кішэняй належалі маскоўскім акадэмікам, аўтарам "слынных" канцэпцыі бяспечнага пражывання ў забруджаных зонах, ці тым жа акадэмічным аўтарам ідэі фінансавых інвестыцый не ў ліквідаванне вынікаў аварыі на ЧАЭС, а ў прафілактыку дарожна-транспартных здарэнняў з тае прычыны, што ад апошніх гіне фізічна намнога больш народу, чымсьці ад радыяцыі? Бачна і з прыведзеных вышэй лічбаў па абласцях, што экалагічны фактар становіцца ў БССР галоўным генератарам эміграцыі. Параўнайце даныя па "забруджанай" Гомельскай і адносна "чыстай" Гродзенскай абласцях. А генератар толькі пачынае набіраць абароты, і хто прадкажа іх частату?

**С. СТЭСІК:** "Наўрад ці можна зрабіць дасведчаны прагноз, заглянуць за 1993 год. Дынаміка эміграцыйных працэсаў паказвае: штогод колькасць жадаючых выехаць павялічваецца ў два-тры разы. Значыць, у наступныя два гады мы будзем мець звыш 50 тысяч. Гэтаксама і пасля 1993-га... Па новаму Закону здымаюцца абмежаванні на выезд. Хоча чалавек — выраблее пашпарт і едзе. Справа ў іншым: ці здолее ён прыдбаць уязныя візы той краіны, куды сабраўся пераехаць. Многія капіталістычныя дзяржавы цяпер увялі жорсткія квоты на ўезд, якія з цягам часу яшчэ больш будуць урэзвацца. Як толькі нашы людзі сутыкнуцца з гэтым на практыцы, ажыятаж спадзе".

Дэмакратызацыя і новае палітычнае мысленне разам з іншымі перашкодамі на шляху рэалізацыі правоў асобы дэманціравалі "жалезную заслону", якая шмат дзесяцігоддзяў адгароджвала нас ад сусветнай грамадскасці. Такім чынам, на сметнік гісторыі быў выкінуты адзін з самых дзейсных асялкоў "холодной войны" — праблематыка эміграцыі з СССР. Многія лічылі, што ўжо цяпер Захад раскрые абдымкі і запросіць "вкусить от пирога изобилия". Захад жа адрэагаваў інакш, засноўваючыся перш за ўсё на сваіх патрэбах. Яшчэ на Венскай сустрэчы 1989 года менавіта ЗША і Канада настаялі на ўключэнні ў Выніковы дакумент нарады таго пункта, што выезд на пастаяннае месца жыхарства можна толькі ў тую дзяржаву, якая гатова прыняць. Прафсаюзы многіх краін (асабліва медыцынскіх работнікаў) выступілі супраць выкарыстання замежных спецыялістаў. З кастрычніка 1989 года Злучаныя Штаты ўвялі новы іміграцыйны закон: цяпер выключаецца магчымасць прасіць дазволу ўехаць, знаходзячыся ў трэціх краінах. Канада ўвяла квоту для ўсходнееўрапейскіх рэгіёнаў. Швецыя традыцыйна прытрымліваецца вельмі пільнай "санацыйнай" сістэмы фільтрацыі: на тэрмін звыш года прымае 150—200 чалавек, на больш кароткі — [illegible]лькі тысяч. Абагульняючы, [illegible]значым: каб сёння ўсталявацца ў развітых краінах, патрэбна запрашэнне ад блізкіх сваякоў альбо ўжо падпісаны працоўны кантракт.

**ФРАГМЕНТ [illegible]. УЦЕЧКА "МАЗГОЎ" І [illegible]ОКРЫЯ СПІНЫ"**

Акрамя выездаў на пастаяннае жыхарства ў палон да хранічнай і невылечнай настальгіі, якія, відаць, будуць працякаць больш-менш стабільна, савецкія сацыёлагі праграміруюць актыўную эміграцыю ў пошуках часовай работы, па найму. Што кепскага, калі чалавек імкнецца зарабіць капейку за мяжою, пазбаўлены мажлівасці зрабіць гэта дома? Нічога. Аднак і ў першым, і ў другім выпадку менавіта тут ва ўцечцы "мазгоў" і "залатых рук" пралягае "зона адчужэння": паміж інтарэсамі асобы і дзяржавы. Матухна-прырода не абдзяліла Белую Русь талентамі, ды вось дбайна і ўважліва ставіцца да свайго інтэлектуальнага багацця, не выцірацца аб яго ногі, а паважаць не навучыла.

У 1990 годзе за мяжу сярод іншых выехалі: служачыя — 10 684 чалавекі, рабочыя 5 956, калгаснікі —28, навучэнцы і студэнты —755.

Эмігрант заўжды быў вельмі таннай рабочай сілай, знаходкай для краіны-амфітрыёна. Не затраціўшы на яго адукацыю і выхаванне ні цэнта, яна атрымлівае цудоўную магчымасць адразу ж выкарыстоўваць яго. А для краіны-пастаўшчыка, прымусовага донара, гэта прамаезджая дарога ў інтэлектуальны дэфіцыт. І зусім не выпадкова новым законам прэзідэнт Буш дае карт-бланш на імпарт інтэлектуалаў з СССР. Зусім не выпадкова трэці свет б'е трывогу, і па яго ініцыятыве пры ААН створана спецыяльная камісія па прафілактыцы не такога ўжо і далёкага гуманітарнага крызісу.

Ды хто сказаў, што на гэтых багатых краінах свет клінам сышоўся! Ёсць жа і слабаразвітыя. Урэшце навошта далёка за прыкладам хадзіць — Польшча. Нелегальных працоўных эмігрантаў з Мексікі ў ЗША называюць "мокрыя спіны". Нашы спецыялісты з дыпломамі і без, з кандыдацкімі ступенямі, што і не сніласе бедным мексіканцам, прыплываюць на грабяні хвалі ў абход заканадаўства ў гавань польскага суседа і знаходзяць сінекуру. Іх, беларускіх, украінскіх і рускіх "мокрых спін" польскі бок налічвае ўжо 40 тысяч.

**С. СТЭСІК:** "У нас няма афіцыйных даных. Але ёсць звесткі, што людзі атрымліваюць запрашэнні ад асобных гаспадароў і дробных фірм Польшчы, прыязджаюць, вядуць будаўнічыя і пасяўныя работы, даглядаюць жывёлу, мыюць посуд і г. д. Зарабляюць у 2—3 разы менш, чым мясцовае насельніцтва, скажам 50 долараў у месяц, сума, якая ў пераліку на савецкія рублі іх задавальняе... Гэта тыя ж міжнародныя батракі: ніякіх дагавораў з імі не заключаецца, ні аб якой сацыяльнай ці прававой абароне не можа быць і гаворкі".

Паўтаруся, эміграцыя, выезды на часовую работу — з'ява аб'ектыўная, непазбежная, са сваімі плюсамі і мінусамі. Разам з тым ні адна краіна не зацікаўлена ў масавым зыходзе яе насельнікаў, у магчымым парушэнні і дэмаграфічнага, і балансу працоўных рэсурсаў. 34 тысячы пакінула Беларусь летась, удвая больш можна чакаць у будучым годзе. Вялікая гэта ці малая амплітуда эміграцыйнай хвалі? Дастаткова сказаць, што натуральны прырост насельніцтва рэспублікі за той жа перыяд склаў усяго толькі 33,1 тысячы.

Сумняваюся, каб цяпер нават самы заядлы кансерватар прапанаваў ізноў забіць крыж-накрыж дошкамі "акно ў Еўропу"... Да таго ж непадпісанне некаторымі суверэннымі рэспублікамі Саюзнага дагавора падвядзе нас да "перспектывы"ператварэння ўнутраных міграцый насельніцтва ў міжнародныя.

Эміграцыя — глабальная праблема. Яна патрабуе дзяржаўнага стаўлення ад суверэннай дзяржавы: распрацоўкі дальнабачнай, мэтанакіраванай эміграцыйнай (іміграцыйнай таксама) палітыкі. (Яна тычылася б і ўездаў. Яшчэ адно "вузкае месца". Колькі хваляванняў парадзіла ўведзеная з 1 ліпеня гэтага года пастанова саюзнага ўрада аб павелічэнні таможных пошлін на ўвоз тавараў у СССР!). Няблага было б, можа, падумаць аб стварэнні спецыяльнага органа (па прыкладу многіх краін), які б сваёй дзейнасцю ахопліваў усе састаўляючыя гэтай шматскладанай з'явы. Напрыклад, заключэнне пагадненняў аб працаўладкаванні грамадзян БССР за мяжой, абарона іх інтарэсаў і правоў, навуковыя і сацыялагічныя даследаванні, адладжванне эканамічных сувязей з замежнымі суайчыннікамі і г. д. Ва ўсякім разе, у парадак дня чарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР просіцца пункт аб стварэнні нейкай невялікай парламенцкай структуры па справах эміграцыі.

Інакш ад гэтай стыхійнай эміграцыйнай хвалі мы пацерпім намнога болей, чым прыдбаем.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# ЛЮДЦЫ, ПРЫХОДЗЬЦЕ ДА ПАЭТА!





**На вуліцы Рабкораўскай у Мінску ўрачыста адчынена "Беларуская хатка" — філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Па задуме арганізатараў, гэта будзе не проста музей, а культурны цэнтр, дзе мяркуецца ладзіць фальклорныя канцэрты, паэтычныя сустрэчы, выступленні беларускіх бардаў.**

**З нагоды адкрыцця "Беларускай хаткі" на імпрэзу сышліся літаратары, настаўнікі, мастакі, прысутнічалі міністр замежных спраў П. Краўчанка і міністр культуры БССР Я. Вайтовіч.**

**У кароткай прамове перед грамадой дырэктар музея М. Багдановіча А. Бяляцкі адзначыў, што "хатка" адноўлена паводле таго ж домiка, у якім у 1916—1917 гадах жыў у Мінску Максім і дзе адбываліся сустрэчы вядомых дзеячаў беларускай культуры, сяброў паэта.**

**Экспазіцыя, якая расказвае пра творчы і жыццёвы шлях М. Багдановіча, гісторыю беларускай літаратуры і культуры, створана талентам маладых мастакоў, падзвіжнікаў Адраджэння.**

**Ужо зараз наведвальнікі музея могуць акрамя знаёмства з экспазіцыяй, прысвечанай З. Бядулю, А. Смолічу, Ядвігіну Ш., У. Галубку, С. Рак-Міхайлоўскаму, У. Фальскаму, А. Уласаву, Л. Сівіцкай (Зосьцы Верас) і іншым заснавальнікам "Беларускай хаткі" ў пачатку стагоддзя, паглядзець прадстаўленні старажытнага лялечнага тэатра "Батлейка". Перад гледачом праходзіць шэраг персанажаў народнага тэатра.**

**У невялікай бібліятэчцы беларускай літаратуры на эміграцыі, што таксама маецца ў музеі, наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з аўтарамі, малавядомымі пакуль што на Беларусі, гэта Н. Арсеньева, А. Салавей, А. Адамовіч, Я. Юхнавец.**

**Выступіўшы на адкрыцці музея М. Лужанін назваў падзею святам адраджэння гістарчнай справядлівасці ў адносінах да М. Багдановіча, а таксама А. Гаруна, М. Гарэцкага і іншых класікаў беларускай літаратуры, чыя творчасць да апошняга часу штучна аддзялялася ад нацыянальных здабыткаў.**

**На падвор'і "хаткі" прагучалі купальскія песні ў выкананні фальклорнага калектыву.**

**Да Паэта ідуць і ідуць людзі, каб ушанаваць яго памяць, каб далучыцца душой да духоўнасці і сваіх каранёў.**



**НА ЗДЫМКАХ: будынак "Беларускай хаткі" ў Мінску на вуліцы Рабкораўскай; Ніна ВАТАЦЫ (справа) і Максім ЛУЖАНІН на адкрыцці музея; выступленне тэатра "Батлейка".**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

*НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ*

# МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК-УРАЛ, А ДАЛЕЙ-УСЮДЫ

Сёння Г. Здановіч прызнаны вучоны. Ён ездзіў чытаць лекцыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Кола прыхільнікаў яго навуковых зацікаўленняў пашырылася.

**ТРАМВАЕМ У АРХІЎ**

На з'ездзе аб'явілі перапынак на абед, а таксама на даафармленне розных папер камандзіровачных. Пацягнуліся, хто куды, а я выбраў дарогу ў архіў. Дзякаваць Богу, усе дакументы, патрэбныя для работы, былі з сабою. На падказцы чэлябінцаў я сеў на трамвай і адправіўся шукаць дом № 37-а па вуліцы Расійскай. Даехаў хутка, вось толькі папацеў, пакуль адшукаў той архіў. У каго ні спытаю, не ведаюць. На аднаго чалавека ўсё ж набрыў.

— Архіў? — звёў бровы стары чалавек.

— Так.

— Ведаю. Прыязджаму не так проста яго знайсці. Гэта наша старая лазня, якую падмарафецілі і аддалі пад сховішча дакументаў.

Цяпер ужо мне было ад чаго звесці бровы. Бывае і такое.

Стары развярнуўся, паказаў рукой на ружовы пяціпавярховы дом і сказаў, што там у глыбіні двара якраз і знаходзіцца архіў у прысадзістым доме зялёнага колеру.

Я падзякаваў і наважыўся ісці, а дзед пытаецца:

— А вы адкуль будзеце?

— З Беларусі.

— А Маладзечна ведаеце?

— Чаму ж не, мой родны горад.

— А я там служыў у 1916-м. Хадзіў у разведку, Георгія атрымаў. Жылі мы ў бараках, архітэктар Іваноў нам пабудаваў.

— А як жа ваша прозвішча?

— Коцікаў Міхаіл Іванавіч, — амаль адрапартаваў былы ваяка.

Пайшоў доўгі расказ, адчуваю, што я тут упутаюся надоўга. Папрасіў дзеда напісаць успаміны і даў свой адрас.

— Гэта мне не дадзена.

— Паспрабуйце, — параіў я. Хоць сам сябе дакараў, што ўпускаю, можа быць, вельмі цікавага чалавека. У мяне ж і гадзіны вольнай не было ў плане.

Ветлівая супрацоўніца архіва хуценька афармiла мае паперы і выдала пропуск на цэлы год, як быццам і сапраўды тут збіраюся сядзець аж цэлы год.

**ЯШЧЭ АДНА СУСТРЭЧА**

Да маладога белакурага чалавека падыходзілі дэлегаты, кансультаваліся, пыталіся. Калі поруч з ім нікога не аказалася, падышоў і я.

— Ці ёсць на з'ездзе хто-небудзь з навуковых супрацоўнікаў Чэлябінскага краязнаўчага музея? — далікатна падступаў да размовы.

— Я з музея. Чым магу быць карысным?

— Ці можна пазнаёміцца з экспазіцыяй і з фондамі вашага музея?

— А вы самі з музея?

— Зараз не, але музею я аддаў амаль два дзесяткі гадоў.

— Значыць, мы калегі і праблем ніякіх быць не можа. Я вас запрашаю ў любы час. Вось мая візітка.

Празвінеў званок. Я ўжо саджуся з новым знаёмым. Напаўголаса працягваю гутарку. Падзяліўся сваёй задумай напісаць нарыс пра беларусаў на Урале. Прашу маладога калегу паспрыяць у пошуках матэрыялаў, напомню яму пра дарэвалюцыйныя губерні, дзе жылі беларусы.

— Я сам пастаянна вяду пошукі ў Чэлябінскім абласным архіве, — прызнаецца калега-музейшчык Уладзімір Бажэ, латыш па паходжанні. — Мне трапляліся каштоўныя дакументы пра беларусаў на Урале. Раю пагляддзець у архіве "Пасямейны рос- піс насельніцтва", па якім няцяжка прасачыць паходжанне жыхароў горада дарэвалюцыйнай пары.

— А цяпер шмат тут жыве беларусаў?

— Вядома ж, нямала. Некаторых сюды прыслалі як спецыялістаў, нехта прыехаў сам, а некаторыя тут нарадзіліся і нават не ў першым пакаленні. Адны з іх памятаюць сваё паходжанне, а ёсць і такія, хто не ведае нават свайго раёна далёкай Бацькаўшчыны.

— Ці ўлічваюцца інтарэсы людзей нярускай нацыянальнасці на Урале? — зацікавіўся я.

— Такое не практыкавалася. Здаецца, такое нерэальна. Я часта езджу па вобласці, бываю ў башкірскіх вёсках, але прынята, што Чэлябіншчына — гэта Расія, адгэтуль і будуецца тут уся нацыянальная палітыка. Сама ж назва Чэлябінска паходзіць ад башкірскага "чэлябі". У нашым музеі шмат матэрыялаў, якія па сваёй этнаграфічнай належнасці башкірскія. Гэта самае кампактнае насельніцтва, іншыя слабей прасочваюцца. Зрэшты, толькі нядаўна ў абласным цэнтры пачала нармальна функцыяніраваць мячэць.

... А дэлегаты ўсё выступалі. Кожны лічыў, што яго выступленне самае важнае і самае смелае. Выказваліся па структуры будучай арганізацыі краязнаўцаў. Гаварылі і пра будучага лідэра. Часцей за іншыя называлі імя прафесара Сігурда Шміта, які прыклаў шмат намаганняў, каб гэты ўстаноўчы з'езд адбыўся. Ён адна з самых светлых асоб у адраджэнні краязнаўства, даўно займаецца яго тэарэтычнымі праблемамі. Усіх прасіць, хто піша пра краязнаўства, каб не забывалі паслаць кнігу ці адбітак часопісны ў яго адрас. Зрэшты, гэта і да мяне дайшло. Пры адной з сустрэч у Маскве прафесар даў мне візітную картку і таксама папрасіў, каб я яму дасылаў публікацыі адпаведнай арыентацыі. Тады ж ён і прызнаўся, што Беларусь для яго — дарагая памяць. У Магілёве нарадзіўся яго бацька Ота Шміт. Ды і ў 1939 годзе амаль услед за Чырвонай Арміяй ён ехаў працаваць у Заходнюю Беларусь. Тады Вільня была адным з галоўных цэнтраў Беларусі, і маладога спецыяліста накіравалі туды выкладаць ва універсітэце. Ён здзіўляўся, што яго там называлі прафесарам, як было заведзена называць усіх універсітэцкіх выкладчыкаў.

Цяпер я зноў слухаю выступленне гэтага ўжо сутулаватага чалавека, прыціснутага гадамі, але інтэлігентнага, пачцівага. Сігурд Отавіч на многія з'явы мае свой погляд. Мне падабаецца яго дэфініцыя краязнаўства як навукі, што займаецца даследаваннем канкрэтнай мясцовасці і вывучэнне гэтае ідзе ад прыватнага да агульнага. С. Шміт бачыць у краязнаўстве форму масавай навуковай дзейнасці. Кожны з вучоных, у тым ліку і ён, у канкрэтным выяўленні свайго ўдзелу ў краязнаўчым руху бачыць і ўласныя інтарэсы, у даным выпадку Сігурд Отавіч знаходзіць у ім магчымасць папаўнення "банка" археаграфічных крыніц. Ён у кожным даследчыку імкнецца распазнаць інтэлігентнасць, а калі яна блізкая да нуля, то і эфектыўнасць аддачы такога вельмі нізкая.

З абурэннем С. Шміт гаварыў пра фізічнае знішчэнне краязнаўцаў у тыя страшныя 1930—1950-я гады, якія абламалі мосцік паміж пакаленнямі. Краязнаўства практычна перастала існаваць, а тое, што было, гэта заідэалагізаванае, звернутае на службу партапарату. Яно нават не трапіла ў БСЭ. І цяпер трэба пачынаць з нуля.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

**Працяг. Пачатак у № 27.**

# ШТО МЫ СТРАЦІЛІ І ШТО БУДЗЕМ АДРАДЖАЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

любых умовах узялі пад сваю апеку той ці іншы помнік і сталі заказчыкамі на правядзенне на ім рэстаўрацыйных работ. Шматлікія помнікі гісторыі і культуры былі даведзены да жудаснага тэхнічнага стану, а некаторыя беззваротна страчаны. Цяпер сітуацыя кардынальна, будзем спадзявацца, мяняецца. Па-першае, адбыліся змены ў свядомасці грамадства. У адносінах да сваёй культурнай спадчыны людзі пачалі кіравацца ўласным розумам і пачуццямі. Па-другое, ужо чацвёрты год мы атрымліваем сродкі на рэстаўрацыю помнікаў з дзяржаўнага бюджэту. Больш таго, сёлета мы маем не проста дзяржаўныя сродкі, а ліміты капітальных укладанняў, хаця шкада, што зараз яны не настолькі надзейныя, як раней. Калі не існавала яшчэ аб'яднанне "Белрэстаўрацыя", а былі толькі рэспубліканская спецыяльныя рэстаўрацыйныя навукова-вытворчыя майстэрні, іх гадавы аб'ём работ складаў да 1982/83 года прыкладна 350 тысяч рублёў. Сёлета на рэстаўрацыю помнікаў толькі дзяржава выдзеліла 7 мільёнаў рублёў. Да гэтай сумы далучаюцца яшчэ і сродкі іншых заказчыкаў. Але інфляцыя, падаражанне матэрыялаў і работ не даюць магчымасці сцвярджаць, што іх рэальныя аб'ёмы ўзрастаюць прапарцыянальна сумам, якія асвойваюцца. Для ажыццяўлення ж паўнакроўнай праграмы яшчэ да інфляцыйных працэсаў патрэбна было 35 мільёнаў рублёў у год. Зараз гэта сума ўзрасла б па меншай меры ўтрая.

*— У свой час, як вядома, і рэстаўрацыяй, і аховай, і аднаўленнем помнікаў займалася Міністэрства культуры. Наколькі гэта ўвогуле мэтазгодна?*

— Зусім немэтазгодна. Манаполія Міністэрства культуры на ўсё: вытворчасць работ і на кантроль за імі — прыносіла толькі шкоду. Манапалізм у гэтай справе сапсаваў не толькі шэраг аб'ектаў, але і адносіны да помнікаў. У Беларусі была выдатная метадычная школа рэстаўрацыі помнікаў. Выдатныя, метадычна абгрунтаваныя праекты альбо ляжалі на паліцах, альбо зводзіліся да прымітыву пры выкананні, зваротнай сувязі не было. Праўда, многае змянілася ў сістэме. Фінансавыя і вытворчыя справы вядзе ўжо не Міністэрства культуры, а спецыяльна створаная ў пачатку гэтага года Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры Саўміне БССР. За Міністэрствам засталіся метадычныя і кантрольныя функцыі. Зараз ужо не толькі "Белрэстаўрацыя" і Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут займаюцца пытаннямі і распрацоўкі навукова-праектнай дакументацыі, і яе рэалізацыі, існуюць і кааператыўныя інстытуты, праектныя бюро, розныя вытворчыя прадпрыемствы. Жывая канкурэнцыя — гэта добра. Але за ўсімі арганізацыямі, каму б яны ні падначальваліся, павінен быць адзіны дзяржаўны кантроль.

*— Закон аб ахове помнікаў у нас існаваў даўно. І ў ім нават былі прадугледжаны меры пакарання для яго парушальнікаў. Чаму ж, тым не менш, нішчыліся і разбураліся помнікі і ніхто не нёс за гэта адказнасці?*

— Закон існаваў, але насіў ён у асноўным дэкларатыўны характар. У адпаведнасці з Законам, знос, змены і перамяшчэнне помнікаў культуры забараняюцца, выключэнне з гэтага можа быць прынята ў кожным канкрэтным выпадку толькі з асобага дазволу Саўміна БССР. Пры неабходнасці, вызначанай прагматычнымі патрэбамі, асобы дазвол даваўся. Былі нават перыяды, калі выключэнне перарастала ў правіла. З другога ж боку, можна было паставіць па-за законам усю рэстаўрацыю, якая, безумоўна, выклікае змены помнікаў. Увогуле, у законе было закладзена шмат такіх недарэчнасцяў, якія давалі падставы для парушэнняў. Закон дэклараваў адказнасць толькі за шкодныя дзеянні ў адносінах да помнікаў. Злачынная ж бяздзейнасць ніяк не была абумоўлена і з гэтай прычыны атрымала шырокае распаўсюджанне. У выніку мы маем каля 6,5 тысячы пакінутых на волю лёсу разбурацца пад дажджом і ветрам каштоўных пабудоў. Гэта па падліку КНК СССР. Па нашых жа даных, каля 8 тысяч. Зразумела, што пры такім становішчы рэчаў у людзей складваліся адпаведныя адносіны да Закона.

У мяне ёсць цэлая папка папер, якія я накіроўваў у органы пракуратуры. У лепшым выпадку парушальнікі абмяжоўваюцца толькі адказнасцю на таварыскім судзе. Чыста ўмоўнае пакаранне. Ну, у крайнім выпадку, штраф мізэрны заплацяць. Прычыны адмоў пракурорау проста дзіўныя. Што цікава, прыкладна 80 працэнтаў парушэнняў адбываліся па віне мясцовых Саветаў народных дэпутатаў — органаў выканаўчай улады, тых самых, якія, у адпаведнасці з тым жа Законам, павінны ажыццяўляць дзяржаўнае кіраўніцтва справай аховы помнікаў (даверылі ваўку пасвіць авечак). І прыцягнуць іх да адказнасці немагчыма. Даўно наспеў час новага Закона аб ахове, зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны. Падрыхтаваны намі праект такога дакумента ўжо разгледжаны на камісіі Вярхоўнага [illegible]вета Беларускай ССР па адукацыі, [illegible]уры і захаванню гістарычнай спадчыны і рэкамендаваны для вынясення на абмеркаванне пятай сесіі ВС БССР, якая адбудзецца восенню гэтага года. І тут мы на аснове вопыту работы, мі[illegible]роднай практыкі паспрабавалі зра[illegible] нармальны Закон, нармальны юрыдычны дакумент, які проста неабходны праваой дзяржаве.

*— У чым прынцыповая розніца паміж старым і новым Законам? Якая канцэпцыя была пакладзена ў яго аснову?*

— Прынцыповае адрозненне новага Закона ад старога заключаецца ва ўзроўні адносін да нашай спадчыны. Вядома, што помнікі гісторыі і культуры — усенародны здабытак. Да таго ж наша нацыянальная спадчына — гэта і асобная старонка ў гісторыі развіцця ўсёй сусветнай цывілізацыі. Сатрэцца яна, і нешта непаўторнае згубіць усё чалавецтва. Зыходзячы з гэтага тэзісу, помнікі гісторыі і культуры не могуць, не павінны залежаць ад волі і ласкі пэўных ведамстваў ці мясцовых уладаў.

У той жа час прынцыпова зменены падыход да пытанняў уласнасці на гісторыка-культурныя каштоўнасці. Закон трактуе, што ўласнікамі могуць быць любыя юрыдычныя і фізічныя асобы. Адзінае абмежаванне, што нерухомыя гісторыка-культурныя каштоўнасці не могуць знаходзіцца ва ўласнасці ваенных устаноў. Закон не будзе спрыяць таксама таму, каб помнікі сталі маёмасцю замежных юрыдычных і фізічных асобаў.

Па-іншаму пададзены і другі аспект у трактоўцы нацыянальнай спадчыны. Да сённяшняга часу да помнікаў гісторыі і культуры адносіцца толькі матэрыяльныя аб'екты і то ў асноўным нерухомыя — будынкі, пабудовы, археалагічныя аб'екты. Ледзь-ледзь абазначаны былі рухомыя каштоўнасці — калекцыі, творы мастацтва. Але ж зусім выпадалі з зоны ўвагі аспекты духоўных культурных скарбаў: песні, легенды, танцы, музычныя або літаратурныя творы, традыцыі, рамёствы і г. д. Менавіта адсутнасць увагі з боку дзяржавы да духоўнай спадчыны народа і прывяла да таго, што ў нас перайменаваны вуліцы і мястэчкі, гінуць старадаўнія рамёствы, людзі забыліся на свае песні. Нездарма, калі прыязджаеш у Беларусь, ствараецца ўражанне, што тут нічога няма нацыянальнага, няма духу беларускасці, таго, што складае менталітэт нацыі. Смешна і недарэчна атрымліваецца, калі старыя могілкі ў Слоніме, дзе пахаваны нашы продкі, знаходзяцца на вуліцы Патрыса Лумумбы.

Уключэнне духоўнай спадчыны ў сферу таго, што ахоўвае дзяржава, таксама з'яўляецца прынцыпова новым у Законе. Спадзяёмся, што пасля ўсенароднага абмеркавання і карэкціроўкі па ўнесеных прапановах гэты Закон пачне дзейнічаць і будзе адпавядаць часу і яго патрабаванням.

*— Скажыце, а як спецыялісты па ахове помнікаў ставяцца да таго факта, што ў Беларусі нішчацца помнікі Леніну, абліваюцца фарбай... Увогуле, ці нармальныя такія ўчынкі для цывілізаваных людзей?*

— З помнікамі Леніну складваецца няпростая сітуацыя. Што датычыцца Беларусі, то ў нас адзіным помнікам Леніну, які ў адпаведнасці з вызначанымі дзеючым Законам катэгорыямі можа лічыцца помнікам гісторыі, з'яўляецца кампазіцыя ля Дома ўрада ў Мінску, і то, як звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Вядома, што ў гэты перыяд ён быў зняты акупантамі і пераплаўлены, а затым адноўлены па мадэлі, якая захавалася ў майстэрні скульптара ў Ленінградзе. Статус помніка гісторыі ён можа набыць менавіта дзякуючы гэтым падзеям. (Па Закону помнікі гісторыі — гэта месцы, будынкі, збудаванні, прадметы, якія звязаны з падзеямі ў жыцці краіны, партыі, з дзейнасцю выдатных людзей). Ніводзін з помнікаў Леніну на тэрыторыі Беларусі непасрэдна не звязаны з яго дзейнасцю. Пэўная іх колькасць заслужана аднесена да помнікаў мастацтва (у тым ліку і размешчаны ля Дома ўрада ў Мінску). Усе астатнія выявы Леніна ніякіх адносін да помнікаў, якія абараняе Закон, мець не павінны. Тым не менш, калі ўзяць любы том Збору помнікаў Беларусі, знойдзем там сотні скульптурных выяваў Леніна, сярод якіх многія з'яўляюцца проста карыкатурай на заснавальніка Савецкай дзяржавы. Як да іх ставіцца? Думаю, што час расставіць кропкі ў гэтым пы[illegible]ні. А ўвогуле, я маю спадзяванне, [illegible]аша пасталеўшае грамадства адмо[illegible]цца ад традыцыі тыражыраваць чые б там ні было выявы і ставіць іх на кожным кроку.

*— Наколькі я ведаю, рэс[illegible]бліка зведвае востры недахоп сп[illegible]ілістаў-рэстаўратараў і будаўнікоў. Ці зрушылася тут нешта з мёртвай кропкі?*

— У політэхнічнай акадэміі адкрыта кафедра, дзе рыхтуюцца спецыялісты гэтага профілю. Адна акадэмічная група архітэктараў штогод набывае рэстаўрацыйную спецыялізацыю. Першыя выпускнікі ўжо працуюць на аб'ектах, у праектных рэстаўрацыйных арганізацыях. У Міры адкрылася вучылішча, дзе рыхтуюць спецыялістаў будаўнічых прафесій. Гэта вельмі важна для рэстаўрацыйнай справы ва ўмовах пераравнай спрадвечнай будаўнічай традыцыі. А ўвогуле спецыялістаў катастрафічна не хапае. І гэта таксама адмоўна адбіваецца на справе аднаўлення нашай спадчыны, справе аховы помнікаў.

*— Гісторыя дала нам шанц адрадзіцца як нацыі. Ёсць магчымасць вярнуць з забыцця сваю спадчыну, паступова аднавіць разбураныя помнікі. Здаецца, усё зараз спрые гэтаму. А магчыма мне, з боку, так толькі здаецца?*

— Увогуле, час спрыяе адраджэнню. Але ў рэальнай справе не ўсё беспраблемна. Страты нашыя куды большыя, чым гэта здаецца, калі ўлічваць не толькі страты фізічнага існавання помнікаў. Безумоўна, нават яны жахлівыя, узяць хаця б Мінск, дзе знікла значная частка гістарычнай забудовы горада, Мінскае замчышча ў значнай ступені, пашкоджаны археалагічны культурны пласт, страцў каштоўная вартасці ансамбль Саборнай плошчы... Але, акрамя таго, мы, людзі, грамадзяне, страцілі разуменне і ўсведамленне сваёй культуры, адчуванне сваёй годнасці, пэўныя якасці свайго менталітэту. У свой час, калі я пачынаў працаваць, сярод архітэктараў, якія займаюцца сучасным праектаваннем, многія маглі вам шмат чаго расказаць пра архітэктуру Грэцыі, Італіі, але пра тых ні слоўца — пра Беларусь. А выхадцы з Гародні нават не ведалі, дзе там Стары замак.

10-гадовая практыка дае ўсе падставы сказаць, што адным жорсткімі адміністрацыйнымі мерамі, прымусам тут істотных змен не дабʼешся. Зрухі спачатку павінны адбыцца ў свядомасці. Зараз перспектыўнай уяўляецца мне пэўная асветніцкая работа. І не толькі надакучлівымі прапагандысцкімі метадамі. Калі мы адновім нейкі помнік, рэстаўрыруем яго і ён прыгожа ўпішацца ў прыроднае асяроддзе, будзе радаваць вока, людзі звернуць на яго ўвагу, пачнуць цікавіцца. Другі напрамак — асветніцкая дзейнасць сярод спецыялістаў, што займаюцца сучаснымі распрацоўкамі, якія ўносяць змены ў навакольнае асяроддзе. Я недарма пра гэта гавару. Многія горадабудаўнічыя праекты свайго часу прадугледжвалі знішчэнне старой планіровачнай структуры, якая захавалася з гатычных часоў, або барока, або рэнесансу... Рабілася гэта зусім не з той прычыны, што іншага выйсця не было. А ад неадукаванасці. Шмат шкоды прынесла і пачуццё правінцыялізму, нацыянальнай несвядомасці. Прывяду нават і прыклад. Заходжу я недзе ў 1980 годзе ў аўтарскую групу, што працавала над праектам Палаца культуры рэспублікі. Паглядзеў і кажу, што ж гэта вы робіце, ці можна такое ўзводзіць побач з архітэктурай Верхняга горада? А яны ў адказ: маўляў, прыязджалі да нас калегі з Масквы, смяяліся, што ў нас такая "рухлядь" у цэнтры горада ўвогуле яшчэ захавалася. Заўважу, што існавалі варыянты, у якіх дзеля стварэння неабходнай прасторы планіроўшчыкі меркавалі вынішчыць усю старую забудову на Інтэрнацыянальнай вуліцы. Бачыце, спадчына ёсць у Маскве, Ленінградзе, у Варшаве. А ў сябе на радзіме адносіны да помнікаў як да хламу. Хаця спадчына беларускага народа ніяк не бяднейшая за спадчыну любога з народаў сусвету. Больш таго, мала які з іх мог бы пахваліцца такой разнастайнасцю сваіх каштоўнасцей. Нягледзячы на ўсе таталітарныя вынішчэнні, у нас ёсць уплывы і Захаду, і Усходу, і Поўначы, і Поўдня. У нас на тэрыторыі Беларусі сустракаюцца культавыя будынкі амаль усіх веравызнанняў. Шмат што з разбуранага паддаецца аднаўленню. Тым больш, што і захавалася не так ужо і мала. Мы яшчэ далёка не ўсё вывучылі. Вынікі гэтай работы могуць даць надзвычай багаты плён.

*— Апошняе пытанне я хацела б задаць пра Мірскі замак. Яго рэстаўрацыя пачалася гадоў 20 назад, калі не памыляюся. Чаму работа так зацягнулася?*

— Мірскі замак — адзін з найцікавейшых помнікаў у Еўропе і, напэўна, не толькі ў Еўропе. Па ўсіх паказчыках гэта аб'ект групы зэро. У ім сабраны ўплывы і напластаванні самых розных стыляў. Таму мы яго і рэкамендуем першым ад рэспублікі ўключыць у спіс сусветнай спадчыны. Складаецца ён адпаведнай камісіяй ЮНЕСКА.

Праектныя прапрацоўкі па гэтаму аб'екту пачаліся ў 1968 годзе. У 1970-м была выканана яго кансервацыя. Практычная ж рэстаўрацыя распачалася ў 1983 годзе. Да такога звышскладанага помніка падступіцца было вельмі няпроста. Безумоўна, хацелася выкарыстоўваць яго толькі ў навуковых і асветніцкіх мэтах. Але што магла зрабіць у той час (70-80-я гады) культура, якая фінансавалася па астаткаваму прынцыпу. У пошуках купцоў спыніліся на самым непрыдатным варыянце — размясціць там вучылішча. Такая ініцыятыва, як ні дзіўна, зыходзіла ад праекціроўшчыкаў. Канчатковы крах гэтай ідэі вызначыўся ўжо ў працэсе вытворчасці работ, якія ледзь не нашкодзілі помніку.

У свой час мне давялося патраціць амаль год, каб змяніць характар прыстасавання замка, змяніць яго гаспадара (зараз гэта Дзяржаўны мастацкі музей БССР). Добра, што ініцыятыва была падтрымана ўрадам рэспублікі. Пераход ад аднаго рашэння да другога быў надзвычай цяжкі, шмат чаго давялося перарабіць. Значныя складанасці былі і ёсць і ў арганізацыі работ. Летась, напрыклад, пры эканамічнай блакадзе Літвы мы не мелі літоўскай дахоўкі. Але зрухі ўжо адбыліся. Першыя дзве вежы замка ў стадыі завяршэння, на паўночным корпусе таксама праведзены адпаведныя работы.

Робім усё магчымае і немагчымае, даганяючы час на рэстаўрацыі. Спадзяюся, што ўвосень змагу запрасіць вас на адкрыццё першай чаргі адноўленага Мірскага замка.

*— Буду чакаць вашага запрашэння, каб на свае вочы пабачыць і расказаць пра гэта чытачам.*

# ПЛЕНЭР ІНВАЛІДАЎ



"Глядзі на мяне як на роўнага" — гэтыя словы сталі дэвізам І Міжнароднага пленэра, які арганізавала Беларускае таварыства інвалідаў. Яго ўдзельнікі — члены таварыства і госці з Польшчы. Маладыя майстры з польскага дзіцячага дома і іх настаўнікі, муж і жонка Меке, вядомыя мастакі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, сустрэліся з беларускімі калегамі.

Пленэр — сумесная праца мастакоў — адбыўся ў Крыме, у горадзе Сакі, на беразе Чорнага мора. Тут наладжваліся мастацкія выстаўкі, праходзілі творчыя сустрэчы. Мастакі паказалі жывапіс, скульптуру, міні-габелены, вырабы са скуры. Гэта выклікала непадробную цікавасць, прынесла радасць творчасці, радасць зносін.

Яшчэ нядаўна гэтай арганізацыі як быццам не існавала. Людзі, стаўшыя інвалідамі, амаль аўтаматычна "спісваліся" як нягодныя для карыснай працы, станавіліся абузай — так загадвала сістэма. Сёння наша грамадства абуджаецца, але нават і ў самыя цяжкія часы былі стойкія людзі, якія не здаваліся абставінам. Сярод іх — Валянціна Юркова, кіраўнік творчай мастацкай студыі, кіраўнік і натхняльнік пленэра, Мікалай Калбаска — старшыня праўлення Таварыства інвалідаў. Па яго настойлівай ініцыятыве для правядзення пленэра былі выдзелены неабходныя сродкі.

Планы таварыства вялікія: арганізацыя мастацкіх школ для дзяцей-інвалідаў, фестываляў, расшырэнне творчых сувязей з замежнымі таварыствамі абяздоленых. Пачатак гэтай высакароднай справы — І Міжнародны пленэр — аказаўся паспяховым. У Мінск прыйшло запрашэнне на пленэр у Польшчу, які адбудзецца гэтым летам.

Ларыса САЛОДКІНА,
мастацтвазнаўца.

НА ЗДЫМКАХ: М. НЯКРАСАВА. "Кампазіцыя"; Г. ГАРАВАЯ. "Анёлы"; З. ІЛЬКОЎСКІ (Польшча). "Бірулькі са скуры".





# НАРОДНЫ РАЗЬБЯР З-НАД НАРВЫ

Уладзімір Наўмюк — ураджэнец вёскі Канюкі, што над ракою Нарвай у Заблудаўскай гміне пад Беластокам. Ён народны разьбяр. Самародны талент. Юнаком пайшоў працаваць да вясковага майстра-цесляра. Рабіў прыгожую разьбу на хату, аздабляў шчытавыя аконцы, ганачкі.

Разьбленне — яго ўнутраная, душэўная патрэба. У працу ён укладае частку самога сябе. Рэзьбіць у мяккай драўніне — ліпе, вярбе і іншых, але найбольш любіць дуб, яблыню, грушу, карлікавую бярозу, акамянелы ў рацэ чорны дуб. Для кожнай разьбы ён падбірае адпаведнае дрэва.

— На вясёлыя фігуры можа быць ліпа, — заўважае, — бо яна добра выяўляе светласць твару. З чорнага дуба можна зрабіць сумуючага Хрыста ці іншую фігуру ў клопаце...

А разьба паўстае ў выніку глыбока перажытага: "Калі я хачу выразьбіць вось гэтага селяніна, перадаць яго рысы, тады я мушу стацца акцёрам, прадставіць і выканаць яго, у сэрцы сваім сыграць яго ролю..."

Працы У. Наўмюка можна сустрэць у многіх музеях у Рэспубліцы Польшча, між іншым у Этнаграфічным музеі ў Варшаве. Яны трапілі таксама ў музеі іншых краін. Шмат іх разышлося па руках прыватных калекцыянераў. Сярод рэзьбаў: сваякі і чужыя, суседзі і далёкія, дзятва і старэчы, апосталы і Хрыстос, адчараваныя долатам ды нажом з камлёў самотных груш, прыдарожных хілых вербаў ды здабытых з мрокаў даўнасці і рачной топелі скамянелых дубоў... У гэтых рэзьбах адчуваецца сапраўдная прыгажосць.

У вёсцы і наваколлі сям'я Наўмюкоў карыстаецца заслужаным аўтарытэтам. Людзі гавораць пра У. Наўмюка з пашанай, ганарацца ім — сваім славутым земляком. Па бацьку пайшоў старэйшы сын Лёнік. Ён пасля заканчэння Супрасльскага мастацкага ліцэя стаў працаваць у Беластоцкім прадпрыемстве па кансервацыі помнікаў культуры, быў заняты, між іншым, пры адбудове Каралеўскага замка ў Варшаве. Сярэдні і наймалодшы — таксама з залатымі рукамі ў сталярскай справе.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ.
Беласток.

## СПОРТ

Прайшоўшыя спаборніцтвы за Кубак Еўропы па лёгкай атлетыцы ў Германіі прынеслі поспех мужчынскай і жаночай камандам Савецкага Саюза. Тут былі паказаны высокія вынікі ў многіх відах праграмы. Выдзеліў перамогу Ігара Астапковіча з Гродна. У кіданні молата ён перамог з лепшым вынікам сезона ў свеце: 81 метр 60 сантыметраў.

Але нават не Кубкі Еўропы выклікалі найбольшую цікавасць аматараў спорту, а знакаміты Уімблдонскі турнір па тэнісу. Мы спадзяваліся, што ў гэтым нумары зможам расказаць аб выступленні савецкіх спартсменаў. На жаль, спаборніцтвы з-за дажджу зацягнуліся. І тым не менш не можам не парадавацца за Наталлю Звераву. Асабліва добра выступае мінчанка ў парных разрадах: змешаным і жаночым.

На першыя ролі ў зборнай Савецкага Саюза па сучаснаму пяцібор'ю выходзяць беларускія спартсмены. Капітанам жаночай каманды з'яўляецца Жанна Далгачова. Чэмпіёнам краіны — Аляксандр Барысенка.

Яны і сталі галоўнымі ўдзельнікамі чарговага этапа Кубка свету, які прайшоў у Лондане. Мужчынская зборная СССР заняла першае месца, а жаночая — трэцяе.

Яшчэ аб адных спаборніцтвах, дзе беларускія спартсмены цвёрда выйшлі на вядучыя пазіцыі.

На алімпійскім канале ў Крылацкім прайшоў асабісты чэмпіянат краіны, які павінен быў назваць кандыдатаў на паездку ў Вену на першынство свету па акадэмічнаму веславанню. Не будзем падрабязна спыняцца на выніках саміх спаборніцтваў. Назавём толькі пераможцаў з Беларусі: А. Хадатовіч, М. Знак, А. Хлопцава. А калі ўлічыць, што ў Вену паехаць змогуць і прызёры, то цэлы тузін прадстаўнікоў нашай рэспублікі заваяваў пуцёўкі на чэмпіянат свету пры ўмове, як выказаўся адзін са спартыўных журналістаў, калі ўсё пойдзе не па прынцыпу "палацавых інтрыг". Былі ўжо выпадкі, што на спаборніцтвы высокага рангу трапляли па званку "зверху".

Вельмі часта нашы замежныя суайчыннікі, аматары спорту, просяць паведамляць аб лёсе ігракоў і трэнераў Беларусі, якія запрошаны за мяжу. Напрыклад, былі пытанні наконт футбаліста, члена зборнай СССР Сяргея Алейнікава. Вядома, што яго італьянскі клуб "Лечэ" няўдала выступіў у чэмпіянаце сваёй краіны і павінен пакінуць вышэйшую лігу. Натуральна, паследавалі прапановы ігракам перайсці ў іншыя, больш моцныя каманды. Атрымаў такія прапановы і Сяргей Алейнікаў. Але... Давайце лепш спытаем у самога футбаліста, якія ў яго планы на будучыню.

— Пакуль усё застаецца паранейшаму, — адказаў Сяргей Алейнікаў. — Адпачываю з сям'ёй на Іанічным моры. Адпускаць з каманды "Лечэ" мяне не хочуць. Клуб запрошвае ў "купцоў" за мяне вельмі вялікія грошы. Так што лёс мой яшчэ не высветлены да канца.

Як пракаменціраваць гэтыя словы? Нам, вядома, прыемна, што за Сяргея Алейнікава змагаюцца, што ў яго такі вялікі аўтарытэт.

Вось толькі шкада будзе, калі гэты выдатны футбаліст, сусветная зорка, згубіцца дзесьці ў другой лізе. Тут ужо і не да славы, ды і не да майстэрства. А яно так патрэбна зборнай СССР, асабліва цяпер, калі каманда вядзе нялёгкую барацьбу за выхад у фінал першынства Еўропы. Сяргей Алейнікаў жа ў нашай зборнай — стрыжневы ігрок.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 1069.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12